© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





# Рэгіянальная газета

22 сакавіка 2013 года
№ 12 (934)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Нашу зямлячку, якая вынайшла станік, ушануюць у Валожыне

2-я старонка



Туберкулёз працягвае забіваць. Найбольшая небяспека – ад лекавай устойлівасці

20-я старонка



# Анамальная вясна: рыхтуемся да вялікай паводкі



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**У 2010 годзе рэчка Спорня падышла да падмуркаў хат у вёсцы Асіпавічы Вілейскага раёна.** Працяг тэмы на 5-й старонцы.

## навіны рэгіёна

### Мяняюцца нумары на АТС "Зубраня"

**МЯДЗЕЛ.** На АТС "Зубраня" пачалі мяняць парадак набору нумароў. Замест першых двух лічбаў 48 у нумары трэба набіраць 22. Гэта АТС абслугоўвае Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр "Зубраня", некаторыя здраўніцы і бліжэйшыя вёскі. У самім цэнтры "Зубраня" нумарацыя пачала мяняцца з 19 сакавіка.

– Гэта работа праводзіцца ў сувязі з мадэрнізацыяй тэлефоннай сеткі і пераключэннем нумарной ёмістасці на сучасную мультымедыйную платформу IMS, – паведаміў вядучы спецыяліст па маркетынгу Мядзельскага РВЭС **Дзмітры Яноўскі**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Павялічацца межы сельсаветаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сельсаветы раёна збіраюцца ўзбуйніць. Ёсць прапанова далучыць Граніцкі сельсавет да Радашкавіцкага, вёску Раёўку – да Чысцінскага сельсавета, Хоўхлаўскі сельсавет – да Гарадоцкага, вёску Шнуры – да Мясоцкага сельсавета, вёскі Мыслевічы, Адамавічы, Гаравіны і частку вёскі Рагазы – да Хажоўскага сельсавета. Таксама прапанавана ўключыць другую частку вёскі Рагазы ў склад горада Маладзечна. Апошні раз тэрытарыяльным зменам раён падвяргаўся ў 2004 годзе.

**Дар'я СПЕВАК.**

### За руль – толькі з правамі

**МІНШЧЫНА.** Ад 20 да 30 сакавіка дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю "Бяспраўніку не месца за рулём". Мэта акцыі – папярэджванне і прадухіленне фактаў кіравання транспартнымі сродкамі асобамі, якія не маюць правоў. Таксама ад 20 да 30 сакавіка ДАІ Міншчыны праводзіць дэкаду дзяржтэхагляду. У гэты час будуць выяўляць транспартныя сродкі, якія своечасова не прайшлі тэхагляд.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар**
**Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**


АЛИДИ-Вест
ДИСТРИБЬЮТОР ТОВАРОВ "Procter&Gamble"
ПРИГЛАШАЮТ НА РАБОТУ
МАРКИРОВЩИКОВ
КОМПЛЕКТОВЩИКОВ
ГРУЗЧИКОВ
ИНСПЕКТОРА ПО БЕЗОПАСНОСТИ
ИООО "АЛИДИ-ВЕСТ" УНП 191688253
место работы - г. Раков
ДОСТАВКА СЛУЖЕБНЫМ ТРАНСПОРТОМ из ИВЕНЦА и ВОЛОЖИНА
044-722-22-23 017-388-00-84



IdeaBank
Отличная идея!
www.ideabank.by
+БОНУС! Мы платим за Ваши покупки*
СУПЕРКАРТА!
Возможности текущего счета и доходность лучших вкладов!
MasterCard
Мы возвращаем 1% от расчетной суммы по картам MasterCard и 0,5% от расчетной суммы по картам Maestro.
Расчетная сумма – это сумма всех безналичных транзакций, но не более среднедневного остатка в течение месяца на текущем счете.
IdeaBank
7801 2900 1508 0967
VALID THRU 10/09
MR DMITRII SAVINOV
258954R0007-3600258947
MasterCard
ДО 42% ГОДОВЫХ на остаток по счету
ЗАО "Идея Банк". Лицензия №25 от 13.02.2013 г. выдана НБ РБ. УНП 807000122
Молодечно, ул. Притыцкого,14
7555 (Звоните с мобильного или отправляйте СМС со словом "КАРТА" - мы Вам перезвоним)


© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ВЕДАЙ НАШЫХ

# Нашу зямлячку, якая вынайшла станік, ушануюць у Валожыне



Фота www.5.ru.

Ураджэнка Валожыншчыны Іда Разенталь у 1930-х гадах адкрыла ў ЗША прадпрыемства па вытворчасці станікаў.

**ВАЛОЖЫН. У горадзе з'явіцца новае месца для адпачынку і гістарычнага турызму. Завулак Паўночны ўпрыгожыць скульптурная кампазіцыя, прысвечаная вынаходніцы бюстгальтара Ідзе Разенталь.**

Ініцыятыва належыць творчай майстэрні "Іслач". Мастакі гатовыя ўзяцца за працу, як толькі з'явіцца неабходныя сродкі.

### Гарсэты сталі невыноснымі

– Асоба нашай зямлячкі цяпер добра вядомая прынамсі жыхарам рэгіёна, – кажа **Алесь Белы**. – Іда Разенталь у пэўным коле вядомая ва ўсім свеце, таму і ў Беларусі, адкуль яна родам, пра яе не варта забываць.

Іда Кагановіч нарадзілася 9 студзеня 1886 года ў Ракаве ў яўрэйскай сям'і. Дзяўчынка была старэйшай з сямі дзяцей. У 16 гадоў паехала ў Варшаву, дзе пачала працаваць швачкай.

Пасля пераезду ў ЗША Іда ўладкавалася ў атэлье. Скаргі кліентак на нязручныя гарсэты прывялі да таго, што швачка ўзялася за стварэнне камфортнай жаночай бялізны.

Да гэтага першыя станікі ўжо атрымалі патэнты ў іншых краінах: у 1889 годзе – у Францыі, у 1991 – у Германіі, а ў 1914 – у ЗША. Але яны былі зусім не падобныя да сучасных.

Менавіта дапрацоўкі Іды Разенталь зрабілі бюстгальтары больш зручнымі: яна запатэнтавала розныя памеры чашачак і шлейкі, што далі магчымасць рэгуляваць іх даўжыню.

– У тыя часы станік не быў прадметам публічнага абмеркавання, – заўважае спадар Алесь. – Магчыма, таму пра вынаходніцтва ў нас не было так шырока вядома.

### Іда Разенталь – з Беларусі!

Пра знакамітую зямлячку на Валожыншчыне пакуль нічога не нагадвае. Многія яе сваякі былі знішчаны падчас вайны. Тыя, хто выжыў, выехалі за мяжу.

Шмат у якіх крыніцах вынаходніцу называюць "эмігранткай з Расіі".

– У нас ёсць помнік, прысвечаны ахвярам халакосту, – дзеліцца назіраннямі Алесь Белы. – Але хацелася б яшчэ, каб былі і жыццярадасныя скульптуры. Гэта ўвогуле характэрна для ўсёй Беларусі: яўрэйская культура ў манументальным мастацтве больш звязаная з трагічнымі падзеямі. Вядома, на іх забывацца нельга. Але ж ёсць і пазітыўныя рэчы, звязаныя з яўрэйскім народам. Наш помнік павінен пра гэта нагадаць.

Два гады таму нашчадкі Іды Разенталь наведвалі Ракаў. Многія з іх цяпер жывуць у Ізраілі і ЗША.

### Помнік з крышталёвымі элементамі асвеціць вуліцу

Макет помніка ўжо распрацаваны. Але яго маштабнасць залежыць ад таго, якую суму грошай атрымаецца назбіраць.

– Калі б мы здолелі назбіраць каля 30-35 тысяч даляраў, то зрабілі б сапраўдную "цукерачку", – кажа **Віталь Рубцоў**, заснавальнік ракаўскай творчай майстэрні "Іслач". – Падрыхтавалі б не толькі помнік, але і тэрыторыю вакол яго – дарогі і лаўкі, каб тут можна было добра правесці час і самім валожынцам, і турыстам. Мы плануем збіраць грошы недзе да мая. Спадзяёмся прыцягнуць як мага больш неабыякавых людзей і арганізацый. І ўжо летам будзем вырашаць, што можна рабіць за атрыманую суму.

Скульптурная кампазіцыя ў выглядзе ліхтара будзе зробленая з бронзы і чорнага жалеза, будзе мець крышталёвыя элементы. Ліхтар упрыгожаць дзве адмысловыя чашачкі, якія будуць нагадваць пра вынаходніцтва Іды Разенталь. Недасведчанаму чалавеку скульптура не будзе зразумелая да канца – давядзецца пачытаць шыльду ля помніка.

– Мы не баімся ўжываць крышталёвыя элементы, – кажа спадар Віталь. – Не думаю, што ў некага падымецца рука іх пашкодзіць. Тым больш, гэта недалёка ад нашай майстэрні, тут заўсёды шмат людзей ходзіць.

## Як нараджаўся сучасны станік: стагоддзе за стагоддзем

Самы першы від бюстгальтара ўзнік яшчэ ў Старажытным Егіпце. Егіпцянкі насілі на грудзях шырокія палоскі з ільняной тканіны. Рымлянкі аддавалі перавагу скураным палоскам.

Эпоха Сярэднявечча ўнесла свае карэктывы: у моду ўвайшлі вузкія гарсэты, металічная аснова якіх падтрымлівала грудзі. Асабліва складана было на той час іспанкам: мода дыктавала правілы на плоскае жаночае цела. Дзяўчынкі з ранняга ўзросту насілі спецыяльныя свінцовыя пласціны, якія не давалі грудзям расці.

У канцы 19 стагоддзя дактары пачалі дбаць пра жаночую гігіену і аб'явілі сапраўдную вайну гарсэтам. Нязручнае адзенне не давала правільна развівацца грудзям і нават унутраным органам. Гэтую ідэю адразу падхапілі феміністкі, якія змагаліся за раўнапраўе жанчын і мужчын у грамадстве.

У той жа час узніклі сучасныя станікі. Француженка Эрмінэ Кадоль прымацавала да палоскі тканіны лямкі, якія дапамагалі бюстгальтару трымацца на плячах. Новы прадмет гардэроба доўга не меў папулярнасці.

Новыя элементы ў распрацоўку станіка ўнесла і наша зямлячка Іда Разенталь. Да таго ж яна стала вынаходніцай спецыяльнага бюстгальтара для кормячых мам, які расшпільваецца спераду.

У другой палове 20 стагоддзя станік стаў незаменным элементам жаночага гардэроба.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

«Молодечненский торгово-экономический колледж»
Белкоопсоюза
23 марта 2013 года проводит
День открытых дверей
Начало в 12 часов
Телефоны для справок
(8-0176) 77-01-51, 77-19-72
УО «Молодечненский торгово-экономический колледж» Белкоопсоюза. УНП 600095711

IX Республиканская выставка-ярмарка
Маладзечанская скарбніца
20-24 марта
Широкий ассортимент товаров по ценам изготовителей:
текстильные товары
одежда, обувь, галантерея
бижутерия, косметика
мед и продукция пчеловодства
продукты питания и напитки
товары народного потребления
Ждем вас по адресу:
Дворец культуры, Центральная площадь, 4
Время работы: 10.00-19.00
Предъявителю купона - скидка на мед 10%
УП «Минское отделение БелТПП» УНП 100144204

РАМОНТ

## Планы на год Вілейскай ЖКГ, ці Якія дамы адрамантуюць?

**ВІЛЕЙКА. Якія дамы плануюць адрамантаваць сёлета работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў Вілейцы і вёсках? Што мяркуецца зрабіць па добраўпарадкаванні горада?**

Такія пытанні даслалі ў Вілейскую ЖКГ. Адказала на іх намеснік дырэктара **Ніна Сялюн**:

– У 2013 годзе з улікам выдзеленага фінансавання плануецца выканаць капітальны рамонт дахаў жылых дамоў №80 па вуліцы Вадап'янава, №68 па вуліцы Валынца, закончыць капітальны рамонт даху дома №16 па вуліцы Беларускай у Людвінове.

Таксама мяркуем пачаць капітальны рамонт з мадэрнізацыяй жылога дома №27 па вуліцы Савецкай, прадоўжыць капітальны рамонт жылых дамоў №39 па вуліцы 1 Мая ў Вілейцы, №№4, 6, 16, 17 па вуліцы Маладзёжнай у Любані, №4 па вуліцы Беларускай у аграгарадку Людвінова. Мяркуем выканаць уцяпленне тарцоў жылога дома №2 па вуліцы Міру ў Людвінове. Будуць працягваць работы па газазабеспячэнні жылых дамоў №№64, 84 па вуліцы Кастрычніцкай і №№57 і 72 па вуліцы 1 Мая ў Вілейцы.

У Вілейцы сёлета плануем выканаць рамонт тратуарных дарожак па вуліцы Ходзькі (участак ад вуліцы 17 Верасня да вуліцы Савецкая), адрамантаваць аўтастаянку, размешчаную за Домам быту, а таксама скончыць добраўпарадкаванне дваровай тэрыторыі дома №39 па вуліцы 1 Мая. А яшчэ плануем пачаць добраўпарадкаванне дваровай тэрыторыі дамоў №91 і 93 па вуліцы Савецкай.

**Аддзел інфармацыі.**

## Неплацельшчыкам за камунальныя паслугі пагражае высяленне

**АСТРАВЕЦ. ВАЛОЖЫН. МЯДЗЕЛ. "РГ" вырашыла даведацца, колькі неплацельшчыкаў у некаторых раёнах нашага рэгіёна.**

Калі чалавек больш за паўгода не плаціць па рахунках за жыллёва-камунальныя паслугі, па рашэнні суда яго могуць выселіць у іншае жыллё. Яно можа саступаць па памеры, умовах ды ўвогуле знаходзіцца ў іншым населеным пункце.

Гэта прадугледжана новым Жыллёвым кодэксам, які ўступіў у сілу сёлета 2 сакавіка.

### АСТРАВЕЦ

– Да высялення справа пакуль не даходзіць, – кажа юрысконсульт Астравецкага райвыканкама **Уладзімір Макарэвіч**. – Каб выселіць, трэба знайсці жыллё, бо абы куды чалавека не адправіш. Безумоўна, новы Жыллёвы кодэкс спрасціў працэдуру высялення, але сам механізм пакуль яшчэ не распрацаваны, бо прайшло вельмі мала часу з уступлення кодэкса ў сілу. Цяпер у нас ёсць дзевяць даўжнікоў-наймальнікаў, у якіх запазычанасці па камунальных плацяжах больш за шэсць месяцаў. Яшчэ каля 20-і чалавек маюць запазычанасці да шасці месяцаў. Агульная сума іх доўгу – 17 мільёнаў рублёў.

### ВАЛОЖЫН

– У нас ёсць тыя, каго трэба перадаваць на высяленне, – кажа вядучы бухгалтар разлікова-касавага цэнтра Валожынскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Антаніна Жук**.

У Валожыне і Валожынскім раёне сёлета на пачатак сакавіка зарэгістраваны 801 даўжнік. Агульная сума іх доўгу налічвае больш за 67 мільёнаў.

Запазычанасці, большыя за тры гады, маюць пяць чалавек. Яны разам павінны вярнуць амаль 7,5 мільёна.

Запазычанасці ад аднаго да трох гадоў ёсць у 11-і чалавек. Яны вінаватыя 12,5 мільёна.

Яшчэ восем чалавек маюць запазычанасці ад шасці месяцаў да года на агульную суму 4,5 мільёна рублёў.

Астатнія 777 чалавек маюць доўг за жыллёва-камунальныя паслугі да шасці месяцаў. Ім трэба выплаціць амаль 43 мільёны.

### МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім раёне ў 22 грамадзян запазычанасць па аплаце жыллёва-камунальных паслуг перавышае шэсць месяцаў. Пакуль высяленне ці перасяленне ў іншае жыллё неплацельшчыкаў не рыхтуецца. Разам з тым, абследуюцца кватэры гэтых грамадзян для выяўлення парушэнняў ва ўтрыманні жылога памяшкання.

**Настасся РОЎДА, Алесь ВЫСОЦКІ.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



СПАЖЫВЕЦ

# Як даць новае жыццё непатрэбным кнігам?

**МАЛАДЗЕЧНА. Пытанне, што рабіць з прачытанымі і праз гэта непатрэбнымі кнігамі рэгулярна ўзнікае ў кожнага чалавека.**

Але не ў кожнага рука падымецца выкідаць іх ці здаваць у макулатуру. Ёсць і іншы варыянт – напрыклад, здаць кнігі ў букіністычны аддзел кніжнай крамы. У маладзечанскай краме такімі кнігамі займаецца прадаўшчыца **Таццяна Мучынская**.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Праз рукі Таццяны Мучынскай (справа) праходзяць усе кнігі аддзела букіністыкі маладзечанскай кнігарні.

### Што можна знайсці на паліцах букіністыкі?

– Здаць кнігу ў букіністычны аддзел проста, – распавядае прадаўшчыца. – Для гэтага дастаткова прыйсці разам з пашпартам і кнігай у краму. Кошт можна ўстанавіць самому, звяртаючы ўвагу на стан кнігі і актуальнасць яе тэмы. Кніга адразу ж з'явіцца на паліцы крамы і прабудзе там два месяцы. Калі кнігу набудуць – мы патэлефануем гаспадару. 30% ад атрыманай сумы крама пакідае сабе.

Калі ж кніга нікога не зацікавіць, кошт на яе паменшаць, а калі і тады пакупнік не аб'явіцца -- вернуць назад гаспадару.

Вузкаспецыяльную літаратуру, напрыклад, кнігі па медыцыне, прадаўцы раяць весці ў Мінск. Там ёсць спецыялізаваныя букіністычныя крамы, дзе і кошты ўстановяць вышэйшыя, і кніга хутчэй знойдзе свайго пакупніка.

Асаблівы попыт ёсць на сучасныя раманы і дэтэктывы: кошты на такія ж кнігі ў звычайным аддзеле крамы ў разы больш. Таму кнігі гэтага жанру раскупляюцца хутчэй за іншыя.

**Кошты на кнігі ў букіністычным аддзеле часцей за ўсё не перавышаюць 10-15 тысяч.**

– Кнігі здаюць па розных прычынах, – заўважае спадарыня Таццяна. – Часцей за ўсё людзі робяць рамонт у кватэрах і разумеюць, што столькі кніг ім не трэба. Пенсіянеры часам хочуць атрымаць нейкую капейку ад продажу. Яны прыносяць тое, што накупілі тады, калі некаторыя кнігі былі ў дэфіцыце. Але часам і мы не можам браць усё. Мы абмежаваныя фізічна: на букіністыку адводзіцца толькі дзве шафы.

У букіністычным аддзеле ёсць і свае пастаянныя пакупнікі. Попыт на такія кнігі ёсць заўсёды. Цікавяцца пакупнікі і вялікімі зборамі твораў аднаго аўтара.

– Бывае, што і за некалькі дзён нічога не купяць, – кажа спадарыня Таццяна. – А нядаўна набылі адразу цэлы збор з васьмі кніг.

### "Нясіце беларускія кнігі – на іх ёсць попыт"

Асноўныя кнігі на паліцах букіністычнага аддзела – класіка беларускай, рускай і сусветнай літаратуры. На некаторых класікаў ёсць асаблівы попыт: пакупнікі рэгулярна шукаюць Васіля Быкава, Антона Чэхава ці Вальтэра Скота.

Дарэчы, беларускамоўнай літаратуры ў букіністыцы няшмат.

– Кнігі беларускіх пісьменнікаў трапляюць да нас не так часта, – заўважае Таццяна Мучынская. – Цяпер ёсць Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, але ў рускім перакладзе. Добра ідуць і падпіскі. Сама б я ахвотна набыла сабе першыя тамы падпіскі Быкава, але іх чамусьці не нясуць. Прыносяць толькі апошнія. Тое ж самае з айчыннымі энцыклапедыямі ў другім аддзеле – пакупнікі пытаюцца пра першыя тамы "Беларускай энцыклапедыі" і "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Але на нашых паліцах толькі апошнія. Хай бы прыносілі ў букіністыку больш беларускіх кніг, калі некаму яны непатрэбныя.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Непатрэбныя кнігі можна падарыць бібліятэцы

**АШМЯНЫ. Калі галоўнае пытанне ў тым, каб аддаць кнігі ў добрыя рукі, а не атрымаць за іх нейкія грошы, то можна зазірнуць у бібліятэкі рэгіёна. Яны ахвотна прымаюць літаратуру ў свой фонд.**

У Ашмянах няма букіністычнай крамы, таму для жыхароў раёна гэта адзінае выйсце, калі яны не хочуць выкідаць кнігі на сметнік.

– Мы прымаем усе кнігі, якія нам прыносяць, – кажа дырэктар Ашмянскай раённай цэнтральнай бібліятэкі **Марына Белавус**. – Проста рука не падымаецца іх выкідаць! Удзячныя кожнаму, хто вырашыў занесці кнігу да нас. Абмежаванняў па году выдання ў нас няма: бываюць і старыя кнігі, але калі мы ўпэўненыя, што іх дакладна будуць чытаць. А ёсць новыя, аўдыторыя якіх вельмі абмежаваная. Таму на год мы не зважаем.

У кожнай бібліятэцы ёсць спецыяльная фондавая камісія, якая вырашае, куды накіраваць кнігу. Камісія вызначае значнасць кнігі, яе магчымы кошт, попыт на літаратуру такога жанру, глядзіць, ці ёсць ужо нешта падобнае ў фондах.

– Мы звяртаем увагу на змест, – дадае спадарыня Марына. – Важна, каб ён не быў маральна састарэлым. Напрыклад, савецкая партыйная літаратура не будзе цяпер карыстацца попытам. У асноўным гэта тычыцца грамадска-палітычнай літаратуры.

Асабліва ахвотна бібліятэкі прымаюць тыя кнігі, якія ўваходзяць у школьную праграму – яны дакладна не будуць пыліцца на паліцах. Напрыклад, на Ашмяншчыне попытам карыстаецца навуковая эканамічная літаратура: па яе звяртаюцца навучэнцы мясцовага аграрна-эканамічнага каледжа. Таму кнігам па бухгалтарскім уліку ў бібліятэках заўсёды рады.

Існуе ў бібліятэках і дэпазітарны фонд – тыя кнігі, якія не выстаўляюцца для агульнага карыстання, але захоўваюцца ў спецыяльных пакоях. Між раённымі і абласнымі бібліятэкамі пастаянна вядзецца абмен, таму кнігі на палічках затрымліваюцца не часта. Да таго ж бібліятэка можа перадаваць кнігі ў мясцовыя ўстановы.

– Мы часам аддаём кнігі ў месцы абмежавання волі, у вайсковую частку, – гаворыць спадарыня Марына. – Гэта нашмат лепш, чым выкідаць іх.

| Курсы валют НБ РБ | 14.03 | 21.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 620.00 | **8 600.00** |
| Еўра | 11 230.00 | **11 100.00** |
| Злоты | 2 714.15 | **2 667.58** |
| Літ | 3 255.35 | **3 212.79** |
| Расійскі рубель | 280.50 | **278.00** |
| Грыўня | 1 061.31 | **1 057.49** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8580/8640 | **8580/8630** |
| Еўра | 11150/11270 | **11080/11200** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **13.03** | **20.03** |
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 112800 | **121100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45850 | **45850** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 58500 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 88000 | **88000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26900 | **26900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 20800 | **20800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9300 | **9300** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9800 | **11000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **12200** |
| **Алей** | 16500 | **16500** |
| **Маянэз**, 200 г | 4650 | **4650** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7200 | **7790** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 13800 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3800 | **3500** |
| **Капуста**, 1 кг | 3500 | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | 3500 | **5000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 18500 | **13500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 20000 | **23000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 20000 | **16000** |
| **Перац**, 1 кг | 38000 | **38000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7000 | **7000** |
| **Грушы**, 1 кг | 21000 | **21000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **10000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **30000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **58000** |
| **Бульба**,1 кг | **10000 (5л)** | **2000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **60000** |

**ПЕРЕВОДЫ С/НА:** английского, испанского, итальянского, немецкого, польского и французского языков, в том числе и для последующего нотариального заверения. Т. **70-31-16**

**ОЦЕНКА ВСЕХ ВИДОВ ТРАНСПОРТНЫХ СРЕДСТВ И ИМУЩЕСТВА** (машин, оборудования и пр.), находящихся в государственной и негосударственной собственности.
Т. **70-31-15, 75-35-74**
Молодечненский ф-л УП «Минское отделение БелТПП»
*г.Молодечно, ул.Буховщина, д.60, корп.1, пом.54*
УНП 100144204



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ПРАКУРАТУРА, СУД

# Рэзаў хлеб – забіў жонку

**МАЛАДЗЕЧНА. У лютым суд Маладзечанскага раёна асудзіў жыхара Радашкавічаў на сем з паловаў гадоў пазбаўлення волі.**

Днём 2 кастрычніка Уладзімір піў са сваёй сужыцелькай. Падчас застолля яны пасварыліся. Мужчына ўдарыў жанчыну нажом у шыю, зачапіўшы вену.

Жанчына загінула.

Абвінавачаны распавёў, што ў той дзень за сталом была яшчэ і суседка. Яны ўтраіх пілі віно. Калі сужыцелька вярнулася, правёўшы суседку, паміж імі завязаўся канфлікт. Жанчына сядзела за сталом, а Уладзімір рэзаў нажом хлеб.

І раптам ударыў жонку.

На судзе абвінавачаны заявіў, што не памятае, як усё адбылося, і што ён не хацеў забіваць жанчыну. Але суд палічыў гэтыя довады няслушнымі: ён біў нажом, прычым у шыю.

Уладзімір сам пабег да суседкі і папрасіў выклікаць міліцыю.

На судзе ў ролі пацярпелай выступіла дачка загінулай. Яна распавяла, што яе маці была пазбаўленая бацькоўскіх правоў, але яны падтрымлівалі адносіны, часам прыязджала да яе. Бачыла, што паміж маці і яе сужыцелем часта былі спрэчкі, яны выпівалі, а ў маці заўважала сінякі.

Участковы міліцыянер, які прыехаў на выклік, распавёў, што яго сустрэла суседка загінулай. У гэты час выйшаў Уладзімір і падаў рукі для наручнікаў. Ён сказаў, што, здаецца, забіў сваю жонку. А хацеў яе толькі папужаць.

Дачка абвінавачанага распавяла, што ў пары былі канфлікты, яна часта бачыла бацьку з падрапаным тварам.

Абвінавачанаму 48 гадоў. Ён жыхар Радашкавічаў. Працуе жывёлаводам. Разведзены. Раней судзімасцяў не меў.

Яму прызначылі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на сем з паловай гадоў у выпраўленчай калоніі узмоцненага рэжыму.

У яго сіндром залежнасці ад алкаголю з актыўнай формай залежнасці, ад чаго яго будуць прымусова лячыць.

**Сяргей ГАБРУКОВІЧ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**




**Мужчына рэзаў нажом хлеб і раптам ударыў жонку.**

## У Ашмянах упершыню асудзілі афрыканцаў

**АШМЯНЫ. Летась двух афрыканцаў – Якуба Саламона Конэ і Серы Менса Калу дэпартавалі з Беларусі за незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы, забараніўшы прыязджаць у краіну тры гады.**

А сёлета ўдзень трэцяга студзеня іх затрымалі пагранічнікі ў вёсцы Ганева Ашмянскага раёна.

Абвінавачаныя віну прызналі цалкам. Якуб Саламон патлумачыў, што прыехаў на мяжу Беларусі і Літвы, каб забраць машыну і грошы. Гэтыя грошы яму мусіў вярнуць чалавек, які спрабаваў дапамагчы яму летась перайсці мяжу.

Суд прызначыў ім пакаранне ў выглядзе арышту на тры месяцы.

Асуджаны Якуб Саламон, 31-гадовы жыхар рэспублікі Кот-д'Івуар у Заходняй Афрыцы. Серы Менса таксама жыхар Кот-д'Івуар, яму 34 гады.

Судовае пасяджэнне вялі на французскай мове. Ашмянскі аддзел Следчага камітэта ўдзячны інспектару пункта пропуску "Каменны Лог" Таццяне Мамуль, якая стала перакладчыцай на французскую мову для падсудных замежных грамадзян.

**Марыя ЯНЧ, Дзмітры КРУПІЧОВІЧ, следчыя Ашмянскага райаддзела міліцыі.**

ПЕРАСЦЯРОГА

## Парады, як не даць злодзею залезці ў ваш гараж

**МАЛАДЗЕЧНА. Кожны дзень у раёне ўзломваюцца некалькі гаражоў. Калі аўтамабіль стаіць у гаражы, то зусім не значыць, што ён у поўнай бяспецы. І гэта пацвярджае статыстыка.**

Першае і самае галоўнае для бяспекі вашага гаража – разуменне, што рызыка яго ўзлому ёсць. Празмерная самаўпэўненасць толькі дапамагае злодзею ажыццявіць свае намеры.

Паняцце "бяспека" тычыцца не толькі самога гаража, але і тэрыторыі вакол яго. Калі ваш гараж знаходзіцца не ў самым добрым раёне горада, дрэнна асвятляецца, без арганізаванай аховы гаражнага кааператыва, ды ў дадатак яшчэ і нябачны – будзьце ўпэўненыя, што рана ці позна ў ім з'явяцца няпрошаныя госці.

Гараж узломваюць, каб скрасці дарагую магнітолу, колы, часам нават прадуктовыя запасы, якія захоўваюць у падвале.

### Як пранікаюць у гараж

Звычайна, каб пранікнуць у гараж, узломваюць замкі. Каб зрабіць немагчымым перапілоўванне дужак навясных замкоў, да варот прымацоўваюць спецыяльныя кажухі. Але яны не абароняць ад зрыву замкоў звычайным ломам альбо з дапамогай прасунутага ў дужку моцнага ланцуга.

Каб гэтага пазбегнуць, трэба ставіць замкі са схаваным стрыжнем. Яны абцякальнай формы, таму скарыстаць ланцуг папросту не атрымаецца. Яшчэ лепш мець і ўнутраныя замкі, якія не адмыкаюцца знутры і папярэджваюць угон аўтамабіля нават тады, калі злодзей усё ж такі залез у ваш гараж.

Калі ў варотах няма дзверцаў, замкі лепш ставіць на адлегласці 400-500 мм па вертыкалі. У гэтым выпадку нагрузка размяркуецца пры спробе грубага ўзлому.

### Аб узломе папярэдзяць званком ці СМС

Існуюць і больш сучасныя варыянты абароны гаражоў ад узлому. Найбольш папулярны – ставіць гараж на радыёсігналізацыю з дапамогай паслуг пазаведамаснай аховы. Вам не трэба будзе цягнуць тэлефонны кабель, бо сігналізацыя працуе на радыёчастотах.

Будзьце ўпэўненыя, што "няпрошаныя госці" вашага гаража будуць гасцінна "прынятыя" ўзброеным нарадам, які прыедзе праз некалькі хвілін пасля ўзлому. А вас тым часам папярэдзяць тэлефонным званком альбо СМС.

### Узломваюць і кіёскі без сігналізацыі

Ад пачатку 2013 года ў Маладзечне адбыліся тры крадзяжы з кіёскаў, якія знаходзіліся каля аўтобусных прыпынкаў.

Зладзеі выломліваюць ралеты, разбіваюць шкло, крадуць тавар і грошы і знікаюць.

Яны выбіраюць кіёскі, на якіх не стаіць сігналізацыя, бо ведаюць, што да такіх нарад міліцыі прыедзе не так хутка, і самі паспеюць уцячы.

Просім усіх, каму штонебудзь вядома аб гэтых крадзяжах, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **(8 0176) 77-16-56** альбо **102**.

Канфідэнцыйнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

**Валянцін АСІПОВІЧ, падпалкоўнік, першы намеснік начальніка РАУС, начальнік крымінальнай міліцыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У жанчыны ўкралі тры тысячы еўра і дзве тысячы долараў

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі адбыўся крадзеж – невядома. Апошні раз жанчына бачыла свае грошы 9 студзеня.**

Жанчына – мінчанка. Сын яе жыве ў Чысці. Іх дача знаходзіцца ў вёсцы Вялікі Бор Маладзечанскага раёна.

Перыядычна яны там бываюць. Сын яе амаль кожны дзень, бо на дачы ёсць сабака, якога трэба карміць. Маці ж яго – радзей.

На дачы жанчына хавала свае грошы (у пераліку амаль 53 мільёны беларускіх рублёў). Яны ляжалі ў куртцы, што вісела на крэсле.

Калі ж яна прыехала 15 лютага ў чарговы раз у Вялікі Бор, грошай не знайшла.

Як потым высветлілася, яе сын два разы прыязджаў на дачу разам з сябрамі.

У доме ніякіх прыкмет узлому няма.

**Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта.**

## Жанчына збіла "Фіят" на пуцеправодзе

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак, 18 сакавіка, у 8.20 на пуцеправодзе 35-гадовая кіроўца "Опель-Астры" збіла "Фіят".**

Яна ехала з боку Парашкоў, паваротвала налева на вуліцу Вальнца і не саступіла дарогу "Фіяту", якім кіраваў 32-гадовы мужчына.

– Кіроўца "Опеля" стварыла аварыйную дарожную абстаноўку, – паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі Сяргей Бартош.

## Школьнік паслізнуўся і зваліўся пад колы маршруткі

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніцай у аўторак, 12 сакавіка, 13-гадовы хлопчык стаяў на гурбе снегу каля прыпынку па вуліцы Касманаўтаў. Гурба была за два метры ад дарогі, пакрытая наледдзю.**

Хлопчык паслізнуўся і зваліўся пад правае кола маршруткі, якая якраз ад'язджала.

Школьніка, вучня СШ №8, шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне.

Інспекцыя па справах непаўналетніх праводзіць праверку.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## Дапамажыце знайсці скрадзены аўтамабіль

**МАЛАДЗЕЧНА. У ноч з 12 на 13 сакавіка па Вялікім Гасцінцы насупраць дома 73 злодзей украў сіняе "Пежо-405" 1992 года выпуску.**

Дом гаспадара ўкрадзенай машыны знаходзіцца недалёка ад музычнага каледжа імя Агінскага. Гаспадар заўсёды пакідаў яе ў двары каля пад'езда.

Міліцыя просіць усіх, хто што-небудзь ведае пра зладзейства, раскажаць аб гэтым Маладзечанскаму РАУС па тэлефонах: **75-11-48** альбо **102**.

Ананімнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

### Крадуць пераважна ў дварах

Звычайна крадзяжы ды ўгоны аўтамабіляў здараюцца на вуліцах і ў дварах, дзе іх найбольш. Прычым больш за палову крадзяжоў адбываецца альбо вечарам, альбо ноччу, калі машыны застаюцца без нагляду.

Зберагчы аўтамабіль, які гаспадар не пакідае ў гаражы ці на аўтастаянцы, практычна немагчыма.

Тут можа дапамагчы толькі выпадак.

**Валянцін АСІПОВІЧ, падпалкоўнік, першы намеснік начальніка РАУС, начальнік крымінальнай міліцыі.**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



СЕЗОН

# Рыхтуемся да вялікай паводкі

## Асабліва пільнымі трэба быць маладзечанскім дачнікам

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**ВІЛЕЙКА. Вясенняя паводка 2013 года, паводле прагнозаў, чакаецца вышэй за сярэднюю, асабліва калі будуць ападкі, а вясна прыйдзе дружная. Раней пік паводкі прыходзіўся на красавік, цяпер вада сходзіць у сакавіку. Сіноптыкі абяцаюць, што раставанне снегу пачнецца 25-28 сакавіка.**

Цяпер запас вады ў снезе ў вадазборным басейне вадасховішча 92 міліметры – 200% ад нормы. 90% гэтай вады трапіць у вадаём, гэта 340 мільёнаў кубаметраў. Толькі 110 з іх акумулюе вадасховішча, а 230 трэба раўнамерна скінуць уніз па Віліі за час паводкі – 40 дзён.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Вячаслаў Лапко замярае колькасць вады ў снезе.

### Але гэта пры ўмове, што ападкаў не будзе.

Цяпер глеба не вельмі прамерзла – на 5-10 сантыметраў, але моцна ўвільготненая. Таму няшмат талай вады прасочыцца ў глебу – гэта таксама ўплывае на вышыню вясенняй паводкі.

На Мінск вада паступае па канале з хуткасцю 20 кубаметраў за секунду – адпампоўванне па гэтым шляху сітуацыі не вырашыць.

Мы ўжо прывыклі, што на Віліі, ніжэй Вілейкі, няма вялікіх вясенніх разліваў. Гэта таму, што ў 1973 годзе раку зарэгулявалі пабудаваным вадасховішчам.

Калі і робяць павышаныя скіды вады, а гэта каля 130 кубаметраў за секунду, то што гэта ў параўнанні з тым, якія паводкі назіралі раней.

### Можа прымусіць да катастрафічных скідаў у Вілію

Але нават пры такой колькасці вады вадасховішча пачынае падтопліваць пасёлак з лецішчамі Маладзечанскага раёна. Але сёлета можа быць вялікая паводка ці дажджавая паводка, якія прывядуць да катастрафічных аб'ёмаў скідаў вады ў Вілію.

1956 год самы шматводны за ўвесь час пасляваенных назіранняў. Запас вады ў снезе на пачатак раставання снегу быў 95 міліметраў, а гэта 200% ад нормы. Вясна была позняя і дружная. За ўвесь час вясенняй паводкі выпала яшчэ 75 міліметраў ападкаў.

Чаша вадасховішча можа прыняць толькі 110 мільёнаў кубаметраў. Астатнія 520 мільёнаў кубаметраў, прыкладна два аб'ёмы вадасховішча, трэба было б за месяц скінуць уніз па Віліі.

У 1931 годзе была надзвычайная паводка. Пры максімальным расходзе вады ля Вілейкі за секунду праходзіла на тысячу кубаметраў вады больш, чым цяпер. Максімальны пад'ём вады дасягнуў 22 красавіка – чатыры метры. Усе гідралагічныя матэрыялы захоўваюцца ў архіве.

Паводка 1931 года ўзнікла з-за некалькіх прычын: прамярзанне глебы, вялікі запас вады ў снезе ў вадазборным басейне, не было адліг, снег пачаў раставаць позна і дружна, і пры гэтым выпадала шмат ападкаў.

### Паводка ў ліпені 1865 года зносіла дрэвы

Як распавёў доўгажыхар, з якім размаўлялі ў 1931 годзе, у ліпені 1865 года на Віліі была катастрафічная паводка з-за ліўня. Тады затапіла ўсю даліну з вёскамі. Хваля паводкі прайшла хутка, за некалькі гадзін – і несла шмат змытых з каранямі дрэваў і будынкаў. Былі ахвяры.

Хваля прыйшла праз некалькі гадзін пасля ліўня, а той прыйшоў з вялікай навальніцай. Пік паводкі не ўстанавілі, але ён быў вышэйшы за пік паводкі 1931 года прыкладна на адзін метр. Гэта значыць, найбольш вада паднялася на пяць метраў.

Калі вясеннюю паводку можна прагназаваць і разлічыць, то дажджавую немагчыма – колькасць ападкаў спрагназаваць немагчыма.

### ГЭС абмяжоўвае скід вады

У 70-я гады ў Вілейскім вадасховішчы перад паводкай скідвалі ваду на 3-3,5 метра. Пасля таго, як у 1998 і 2002 гадах увялі два энергаблокі гідраэлектрастанцыі, ваду скідваюць не ніжэй за паўтара метра ад нармальнага ўзроўню. Таму ўзнікаюць праблемы з бяспечнай акумуляцыяй і скідам вады ў час бурлівага вясенняга напаўнення.

Апошнія 10 гадоў на пасяджэннях раённай камісіі па паводцы толькі і ідзе размова аб адкрыцці гідралагічных пастоў на асноўных прытоках рэках – Сэрвач, Ілія.

На рацэ Вілія ў Сцешыцах дзейнічае гідралагічны пост ад 1951 года. Сёлета гідралагічная станцыя адкрые пост на рацэ Сэрвач у пасёлку Крывічы. Тады інфармацыя пра паступленне вады ў вадасховішча будзе больш дакладная.

### Няўважлівасць да ракі

У артыкуле "Водны баланс Вілейскага вадасховішча", надрукаваным ў 1980 годзе ў "Весніку БДУ", я прапанаваў методыку воднагаспадарчых разлікаў па рэгуляванні ўзроўню вадасховішча і бяспечных скідаў. Пакуль, наколькі вядома, ніхто зацікаўленасці да гэтай праблемы не праявіў, нягледзячы на неаднаразовыя звароты да кіраўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.

Што тычыцца падтапленняў дачных пасёлкаў у Маладзечанскім раёне ў пойме Віліі, то іх будавалі ў 80-я, у час бурнай перабудовы. Ніякага ўзгаднення з Мінводаканалам, гідраметэацэнтрам, прыродаахоўнай арганізацыяй. У той жа час пабудавалі вадасховішча ў раёне Ніжняга парку. Вышэй упадае рачулка Пляснянка з, мякка кажучы, не зусім чыстай вадой. На месцы вадаёма ўтварылася амаль сцёкавая яма.

Адбылося моцнае абмяленне Віліі ў межах горада, і прапускная магчымасць рэчышча моцна паменшылася. Пасля разбурэння плаціны рака ўвайшла ў сваё рэчышча, утварыўшы асяродкі і часткова забалоціўшы берагі.

Прырода падкідае нам сюрпрызы – катастрафічныя паводкі. Паводле тэорыі верагоднасці, яны здараюцца раз на 100-150 гадоў. Рэкі нашага рэгіёна ў час паводкі аднолькава спакойныя. Але трэба быць падрыхтаванымі да розных выпадкаў.

**Вячаслаў ЛАПКО, начальнік вілейскай гідраметэастанцыі.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ І МЯДЗЕЛЕ

## Якая прыродная стыхія можа стварыць найбольшую небяспеку?



**Багуслаў Крышкоўскі, настаўнік, Вілейка:**

– Усе стыхіі небяспечныя для чалавека. Але найбольш – агонь: ад яго вельмі цяжка выратавацца. І вада небяспечная. Для Вілейкі гэта тэма актуальная, бо побач вадасховішча. Але, здаецца, зроблена яно надзейна і віляйчанам хвалявацца няма чаго.



**Яўген Ручыц, вучань, Вілейка:**

– Вада. Таму што ўяўляе сабой вялікую разбуральную сілу. Вельмі небяспечныя цунамі.



**Вольга Коласава, супрацоўнік музея, Вілейка:**

– Любыя катаклізмы прыроды небяспечныя. Чалавек лётае ў космас, робіць вялікія адкрыцці, але кіраваць прыродай ён не навучыўся. Таму мы не застрахаваныя ад сюрпрызаў надвор'я і можам чакаць чаго заўгодна. Але трэба ўсё ўспрымаць без панікі і рыхтавацца.



**Іван Драўніцкі, пенсіянер, в. Камарова Мядзельскага раёна:**

– Мабыць, самая небяспечная стыхія – агонь. Нават калі загараецца сухая трава – гэта такая страшная з'ява. Даводзілася бачыць.



**Станіслаў Ермаковіч, галоўны ветдоктар раёна, Мядзел:**

– Лічу, што ўраганы, таму што вельмі вялікую разбуральную сілу маюць. За апошнія гады з-за ўраганнага ветру даводзілася два разы перакрываць дах на райветстанцыі. А вада… Яна для мяне шкоды ніколі не прыносіла.



**Роза Роўда, бібліятэкарка, Мядзел:**

– Думаю, што на першым месцы агонь. Ад маленькай запалкі можа вялікі пажар узнікнуць. Мама расказвала, што ў 30-х гадах мінулага стагоддзя ў сухое лета мужчыны кінулі запалку ці цыгарэту – згарэла паўвёскі. Вада – на другім месцы. Такая стыхія, што можа і затапіць, і палі заліць.



**Уладзімір Васілёнак, работнік ЖКГ, Мядзел:**

– Чалавек усё можа, а вось з прыродай справіцца не атрымоўваецца. А найбольш небяспечнымі лічу землятрусы. Ад іх жа і цунамі могуць узнікнуць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ЯК ТАМ, У ТЭАТРЫ?

# “Батлейка” зблiжае бацькоў з дзецьмi

**МАЛАДЗЕЧНА. Цi не ўвесь свет 21 сакавiка адзначае Дзень лялечнiка. Маладзечанскi тэатр “Батлейка” будзе святкаваць яго ў нядзелю, 24 сакавiка, у 11.45.**


Фота Уладзiмiра АСТАХНОВIЧА

Надзея Пацалуева вiтаецца i развiтваецца з дзецьмi з распасцёртымi абдымкамi.

У гэты дзень i дзецi, i бацькi самi змогуць пабыць акцёрамi, убачыць, як лялькi пачынаюць рухацца i ажываць. Да таго ж, на свяце будуць i Мальвiна, i Бурацiна, i Фея лялек.

Я ж завiтала ў тэатр напярэдаднi свята ў нядзелю, 17 сакавiка. Патрапiла на спектакль “Прывiтанне для Малпачкi”.

Дарэчы, спектаклi ў тэатры паказваюцца толькi па нядзелях у 12.00. Але не думайце, што ўвесь астатнi час акцёры адпачываюць. У iх усяго адзiн выхадны – субота.

## Перад прадстаўленнем – размова

**Надзея Пацалуева** працуе ў тэатры акцёрам i педагогам-арганiзатарам ужо 14-ы год. На пытанне, цi змянiлiся дзецi, адказвае не задумваючыся:

– Я гэтага не бачу. У нас усе дзецi добрыя, таленавiтыя, я iх вельмi люблю. Бацькi таксама шыкоўныя. Актыўныя, вясёлыя, цiкавыя!

Уявiце, што спадарыня Надзея амаль усiх дзяцей ведае па iмёнах. I вiтаецца, i развiтваецца з iмi альбо пацалункам, альбо з распасцёртымi абдымкамi. Для дзяцей гэта ўжо традыцыя: яны заходзяць у тэатр, распранаюцца i першае, што робяць, бягуць вiтацца да Надзеi Пацалуевай.

Бягуць менавiта да яе, бо перад прадстаўленнем, яшчэ пакуль асноўная зала зачыненая, Надзея выходзiць да гледачоў, нагадвае дзецям i бацькам, на якi спектакль яны прыйшлi, расказвае пра тэатр. Просiць выключыць тэлефон, не есцi i не пiць падчас пастаноўкi.

– Мы не проста анiматары, а педагогi-арганiзатары, – тлумачыць Надзея. – Мы iмкнёмся яшчэ i нечаму навучыць дзяцей, кажам, каб яны берaглi сваiх бацькоў, бо памiж iмi часта ўзнiкае непаразуменне: дарослыя ўвесь час занятыя, а дзецi праводзяць час за камп’ютарам. Таму калi я бачу, што бацькi не iдуць на спектакль з дзецьмi, я перакананая, што яны страчваюць магчымасць пабыць гадзiнку разам, убачыць эмоцыi сваiх дзяцей. У свеце ж столькi жорсткасцi i грубасцi.

## Пасля прадстаўлення – дыскатэка

У тэатры “Батлейка” не прынята стаяць са складзенымi накрыж рукамi, бо гэта закрытая поза i яна перашкаджае зносiнам. А Надзея пасля прадстаўлення праводзiць розныя гульнi, конкурсы ды вiктарыны, якiя чаргуюцца з танцамi, дзе ўдзельнiчаць i кантактаваць адно з адным павiнны i бацькi, i дзецi.

Выглядае гэта дзеянне вельмi захапляльна. Бацькi раптоўна ператвараюцца ў пальмы, а дзецi – у малпачак, i ўсе танцуюць, скачуць i смяюцца.

**Аптымальны ўзрост, калi можна пачынаць вадзiць дзiця ў тэатр, – тры гады.**

Надзея гаворыць бацькам, якiя прыходзяць разам з дзецьмi ў тэатр:

– Расслабцеся, адпрачлiвайце асаладу, забудзьце, што вы дарослыя, станьце дзецьмi. Тут усё можна!

Дарэчы, пасля каляднага спектакля “Меч анёла”, якi распавядае пра нараджэнне Хрыста, гульнi з дыскатэкай не праводзiлiся.

Калi ж на календары нейкi святочны дзень, Надзея вучыць дзяцей ствараць розныя прыемныя падарункi сваiмi рукамi. На 8 Сакавiка дзецi рабiлi кветачкi для мацi. А на 23 лютага – лодку, пiлотку i самалёт.

Увогуле ў тэатры прынята святкаваць не толькi Дзень жанчын i Дзень абаронцаў Айчыны, але i Новы год, Мiжнародны дзень лялечнiка, Мiжнародны дзень тэатра, Дзень iмянiннiка.

Апошняе свята ў тэатры адбываецца кожную першую нядзелю кожнага месяца. У гэты дзень вiншуюць усiх бацькоў i дзяцей, хто нарадзiўся ў папярэднiм месяцы.

– Да нас прыходзяць вельмi таленавiтыя дзецi, – расказвае Надзея. – На святы яны выходзяць i чытаюць вершы, спяваюць. Некалi трохгадовая дзяўчынка выйшла i заспявала дарослую песню пра дзень нараджэння. У захапленнi былi ўсе!

Прэм’еры ў тэатры адзначаюцца ўвогуле асаблiва. Акцёры запрашаюць розныя маладзечанскiя творчыя калектывы: выканаўцаў з музычнай школы, удзельнiкаў цыркавой студыi Палаца культуры чыгуначнiкаў, тэатральнага гуртка “Казка” цэнтра дзяцей i моладзi “Маладзiк”, тэатральнага гуртка “Кнiгi i лялькi” бiблiятэкi “Верасок”, студыi бальнага танца Дома культуры чыгуначнiкаў, студыi сучаснага танца Палаца культуры i iншых.

– Мы намагаемся ўсiм калектывам рабiць тое, што мы робiм, шчыра, – працягвае Надзея. – Гледачы гэта адчуваюць, дзiця нельга падмануць.

## “Батлейка” прытрымлiваецца беларускай драматургii

Усе апошнiя прэм’ерныя спектаклi тэатра “Батлейка” былi на беларускую тэматыку: “Певень, цмок, кот i iншыя” i “Цудоўная дудка”.

– Многiя гавораць, што гэта спектаклi, якiя цiкавыя толькi дзецям, – разважае Надзея. – Я ж, калi iх паглядзела, сказала, што яны пойдуць на ўра i для дарослых. Бо тонкую нiтку беларускай драматургii, што праходзiць у гэтых пастаноўках, можа зразумець толькi дарослы. Мне не паверылi. Тады я сама арганiзавала дарослую публiку на “Цудоўную дудку”. Усе былi вельмi задаволеныя, прасiлi, каб рабiлi такiя спектаклi яшчэ, казалi: “Дзякуй, мы даведалiся, што ў нас ёсць тэатр лялек для дарослых”.

Увогуле, калi я запыталася ў Надзеi пра стэрэатып “Батлейка – для дзяцей”, атрымала ў адказ:

– Няпраўда. У нас ёсць пастаноўкi i для дарослых: “Дзiвосныя авантуры”, “Яна i я”, “Голы кароль”, “Казкi з куфэрка” i канцэртная праграма “Кабарэтка”. Тады мы загадзя папярэджваем бацькоў, робiм вячэрнiя спектаклi, запрашаем старшакласнiкаў i нават ваенных. Апошнiя, калi прыходзiлi да нас, неслi акцёрам кветкi.

Мова ў тэатры гучыць i беларуская, i руская. Героi тут часам сыходзяць са старонак традыцыйных беларускiх казак, а часам – ужо з экрану тэлевiзара.

У тэматычнай пастаноўцы “Уцёкi з заапарка” пра правiлы дарожнага руху ўдзельнiчаюць героi з “Мадагаскара”. Ёсць i ўсiмi любiмы спектакль “Маша i мядзведзь”.

– Ёсць гледачы, якiя iдуць на назву спектакля. Напрыклад, на “Новага калабка” цi “Трох парасят”. Ёсць i пастаянныя, якiя прыходзяць у тэатр шмат гадоў запар.

**Даведка “РГ”. Батлейка** – народны лялечны тэатр. У Маладзечне мiнскi абласны тэатр “Батлейка” iснуе з 1990 года. Спектаклi “Батлейкi” за гэты час паўдзельнiчалi ў Мiжнародных фестывалях, якiя праходзiлi ў Германii, Сербii, Iталii, Малдове, Украiне, Расii, Польшчы.


**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

ПРЭМ’ЕРЫ

# У “Батлейцы” прэм’ера “Чырвонай Шапачкi”

**МАЛАДЗЕЧНА. Да сакавiцкiх святаў – Мiжнароднага дня лялечнiка i Мiжнароднага дня тэатра – “Батлейка” падрыхтавала шмат сюрпрызаў для сваiх гледачоў.**

Да Мiжнароднага дня лялечнiка, якi адзначаецца 21 сакавiка, тэатр праўдзе гастролi ў Глыбокiм i Докшыцах.

У нядзелю ж, 24 сакавiка, у 11.45 у “Батлейцы” пачнецца тэатральнае свята, над якiм працуе актрыса i педагог-арганiзатар **Надзея Пацалуева**. А гэта значыць, што будзе весела.

У праграме: традыцыйны паказ любiмага спектакля “Доктар Айбалiт”, выступленне дзiцячых лялечных калектываў, знаёмства з лялькамi з розных спектакляў, слайд-шоу “З лялькай ды творчасцю кожны дзень”, якое падрыхтаваў фатограф **Уладзiмiр Астахновiч**, а таксама танцы, песнi, гульнi i, канешне ж, падарункi.

А вось да Мiжнароднага дня тэатра, якi адзначаецца 27 сакавiка, “Батлейка” рыхтуе першую сёлетнюю прэм’еру. Гэта будзе спектакль пад назвай “Чырвоная Шапачка” Яўгена Шварца. Галоўны рэжысёр – **Мiкалай Андрэеў**. Лялькi прыдумала расiйская мастачка з Бранска **Вольга Сiдарэнка**. Музыку i песнi стварыў кампазiтар **Сяргей Бельцюкоў**.

У прэм’ерным спектаклi задзейнiчаныя вядучыя майстры сцэны **Мiхаiл Асановiч**, **Таццяна Паўлючук**, **Таццяна Чаеўская**, актрысы вышэйшай катэгорыi **Ірына Озер** i **Надзея Пацалуева**, а таксама моладзь тэатра – **Ксенiя Iлькевiч**, **Аляксандр Майрын**, **Вольга Бладыка**.

Казка раскрые гледачам адну таямнiцу: перамагчы хiтрасць i каварства можна толькi дабрынёй i спагадай.

“Батлейка” запрашае вас, дарагiя маленькiя гледачы i паважаныя дарослыя, акунуцца ў свет дзяцiнства i вясёлых святаў.

**Тацццяна ЧАЕЎСКАЯ, актрыса i загадчыца лiтаратурнай часткi тэатра “Батлейка”.**

# Жаўнеру Якубу Конану было б 100 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошнi жаўнер армii генерала Андэрса, якi вярнуўся на радзiму, памёр летась 20 чэрвеня, калi яму было 99 гадоў.**

Якуба Конана пахавалi на могiлках ў мястэчку Беразiнскае. Менавiта там ён жыў.

Ён нарадзiўся 28 сакавiка 1913 года ў сялянскай сям’i ў вёсцы Мiхалова, якая цяпер у Маладзечанскiм раёне.

Удзельнiчаў у Другой сусветнай вайне ў складзе Войска польскага.

Удзельнiчаў у адной з важнейшых бiтваў Другой сусветнай – пад Монтэ Касiна ў Iталii. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ Касiна, медалямi. Якуб Конан належаў да “групы супрацiву” – польскiх жаўнераў, якiя адмаўлялiся дэмабiлiзоўвацца i вяртацца на радзiму, бо лiчылi, што павiнны змагацца далей. Дэмабiлiзаваўся толькi ў 1948 годзе.

На радзiме ў 1951 годзе яго арыштавалi i дэпартавалi ў Iркуцкую вобласць разам з жонкай i пацiмесячным сынам. У 1958 вызвалiлi, выдаўшы ваенны бiлет. У iм пазначылi, што ў Вялiкай Айчыннай вайне не ўдзельнiчаў.

Iнтэрв’ю з Якубам Конанам, якое “РГ” друкавала ў 2003 годзе, можна прачытаць на сайце rh.by.

**Аддзел iнфармацыi.**


*Шаноўны чытач!*
*Падпiска не заканчваецца.*
*Не губляй свой шанец – ПАДПIШЫСЯ!*

- навiны рэгiёна
- займальныя артыкулы i рубрыкi
- тэматычныя старонкi
- сустрэчы з цiкавымi людзьмi
- магчымасць узяць удзел у рабоце над газетай у якасцi КАМЕНТ-эксперта
- зручная праграма
- шмат рэкламы i аб’яў



*Падпiсацца на “РГ” можна на пошце ПА ЎСIМ РЭГIЁНЕ.*
*Падпiсны iндэкс:*
63212 (*iндывiд.*), 632122 (*ведамасная падпiска*)




© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ГІСТОРЫЯ

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №№6, 7, 9.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны валожынца Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родныя мясціны і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла Яўгенія Чаплінская з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.

## Шлях на ўсход

Неяк нас выклікалі ў бюро "Карэл-лесу" і падзялілі па некалькі чалавек, даючы розныя заданні. Мяне з Касоўскім (тут толькі двое валожынцаў і засталося) і яшчэ пяццю хлопцамі, а таксама з 35-гадовым мужчынам, які быў нашым брыгадзірам і правадніком, адправілі эвакуяваць коней з Карэліі далей на ўсход.

Мы, восем чалавек, атрымалі 32 кані, чатыры вазы і па 400 рублёў на дарогу, адпаведныя дакументы для праваднікa і павінны былі перагнаць коней аж да Пярмі, што каля Уральскіх гор. Трэба было пераадолець недзе 1400 кіламетраў – гэта толькі напрасткі. Відаць, ніхто з начальства не падумаў, што гэта немагчымая задача пераганяць да зімы, бо пачынаўся верасень. Нават калі б мы галопам імчалі дзень і ноч, усё роўна да Пярмі да надыходу зімы не даехалі б.

Наш шлях павінны быў праходзіць уздоўж паўднёвага берага возера Анега, праз Вазнясенне, Выцегру, Белазерск, Кірылаў, Вожагу і Ельск.

Ехалі ў дзень дзесьці па 15–20 кіламетраў, нават затрымліваліся пераважна на сенажацях або выганах пры вёсках, каб папасвіць коней ды самім нешта з'есці. Па дарозе куплялі пайкі хлеба па 600 грамаў на дзень, часам заходзілі ў сталоўкі, каб з'есці супу ці кашы. Пра мяса можна было толькі марыць. Калі была магчымасць, проста кралі калгасную бульбу, якую вечарам варылі ў вядры, і поўнае вядро з'ядалі за раз.

Ад Выцегры мы ехалі ўздоўж Беламорканала аж да Белазерска. Па абодва яго бакі, а гэта 3-4 кіламетры, знаходзіліся лагеры. Канал ужо быў пабудаваны, і большасць іх пуставала, але мы сустракалі людзей і слухалі іх аповеды пра цяжкую працу на яго ўзвядзенні. Падчас будаўніцтва не было ніякіх машын, дзенідзе трактар або грузавік. Асноўныя прылады працы – сякера, лучковая піла, кірка і тачка. А колькі няшчасных выпадкаў здаралася! Цяжкая праца ў балоце і холадзе, на дрэнных харчах была суровым выпрабаваннем для лагернікаў.

Па заканчэнні будаўніцтва шмат каму з лагернікаў была аб'яўлена амністыя, але звольненыя нядоўга цешыліся свабодай. Іх арыштоўвалі зноў і пасылалі ў іншыя лагеры "Архіпелагу Гулаг".





Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Фота з вокладкі кнігі "Доўгая дарога да свабоды".

## Стаўленне да храмаў

У адной мясцовасці мы затрымаліся каля пякарні, каб выкупіць паёк хлеба. Я звярнуў увагу на гэту незвычайную будыніну. Раней гэта была праваслаўная царква, якую ператтварылі ў пякарню і склад мукі. Мяне як пракало: вялікае падабенства будынка да Віленскай катэдры і Валожынскага касцёла. Адкуль такая "архітэктура класіцызму" ўзялася на поўначы Расеі? Толькі званіца, якая была побач, мела традыцыйны рускі стыль будаўніцтва.

Крыху далей, недзе за Кірылавам (манастыркрэпасць) мы з сябрамі ўбачылі адну з найпрыгажэйшых цэркваў, якія я бачыў да гэтай пары. Мела яна аж 13 купалаў. Адзін, галоўны, увасабляў Хрыста, а астатнія – апосталаў. Вось гэта перліна сакральнай рускай архітэктуры была пераўтвораная ў лагер з "гнёздамі буслоў". Такое можна было пабачыць толькі ў камуністычнай Расеі.

## Бядота

Напрыканцы кастрычніка даехалі мы да Волагда-Архангельскай чыгункі і спыніліся на станцыі Вожэга ў Валагодскай вобласці. Наступная станцыя была ўжо ў Архангельскай вобласці.

Коней з кожным разам станавілася пасвіць усё цяжэй і цяжэй. Трава пажоўкла, наступілі халады і выпаў першы снег. Да гэтага часу мы праехалі каля 500 кіламетраў і часта падвозілі бежанцаў з-пад Ленінграда. Едучы, бачылі вялікую бядоту калгаснікаў, амаль пустыя склады і крамы.

За гэты час я не бачыў ніводнага чалавека на ровары. Я памятаў, што за польскім часам трэба было прадаць карову або тры парсюкі, каб купіць ровар, але ж усё роўна амаль у кожнай вёсцы іх быў адзін, два, а часам і больш.

Мы былі ў роспачы, не ведалі, што рабіць. І тут чацвёра з нас вырашаюць адлучыцца і паехаць, вядома ж, без коней, у Ташкент, бо ў аднаго з нас быў там дзядзька. Але, каб купіць білет на цягнік, неабходны быў пропуск ваеннага каменданта станцыі. Калі мы прыйшлі да яго па гэты пропуск, то ён прапанаваў нам уладкавацца на працу тут, у мясцовым леспрамгасе.

І вось Мікалай Касоўскі, Пётр Янкоўскі, Рыгор Шэметаў і я пайшлі ў кантору мясцовай управы леспрамгасу. Дырэктар вельмі цёпла прывітаў нас і прыняў на работу. Сказаў толькі, што нас яшчэ чакае 40-кіламетровы марш да пасёлка Курылава. У дарогу выпісаў картачкі для пякарні на хлеб па два кілаграмы кожнаму з нас.

У Курылаве начальнік станцыі Дзмітры Сцяпанавіч Фамічоў, гадоў 55-60, таксама сустрэў сардэчна. Нас накармілі, напалілі нам лазню, выдзелілі ложкі з матрацамі, па коўдры і падушцы. Сказалі, каб заўтра выходзілі на працу.

## Цяжкасці працы

Работа аказалася вельмі цяжкай. Трэба было карчаваць пні. А зямля мокрая, халодныя вятры, летні абутак. Акрамя таго, нам трэба было выпрацоўваць нормы.

Ды толькі ніколі не маглі мы вырабіць гэтыя нормы, і нам ніяк не ўдавалася вырвацца з доўгу перад канторай. Пры ўсім гэтым яда была нізкакаларыйная, увесь час мы недаядалі і амаль заўсёды адчувалі голад.

Я ўвесь час думаў, як мне трапіць да польскага войска і дзе яго шукаць. Нават не было ў каго спытацца.

Насталі моцныя маразы – 35-40 градусаў. Шчасце, што нам далі вайлакі, так званыя катанкі, а то мы засталіся б без ног. Шапку-вушанку я яшчэ раней купіў дзесьці каля Белазерска. Цяпер якраз яна спатрэбілася. А яшчэ з дому ўзяў курткачку з хатняга тканага сукна. Як яна ратавала мяне ад марозу!

Праўда, калі было 42 градусы і ніжэй, нас на працу не выганялі. Лесарэзка, пагрузка, вывазка і г.зв. "спецзаказ". Да ўсяго гэтага раз на месяц, у нядзелю, выганялі нас на суботнікі, дзе ўсе, нават начальнікі, працавалі задарма.

У Курылаве мне якраз споўнілася 18 гадоў. Дзень нараджэння сустрэў галодным. Так здарылася, што даваўся мне тры дні галадаць, бо не меў грошай нават на талерку супу. І тады я падумаў, што з гэтага становішча тэрмінова трэба неяк выбірацца.

## У пошуках вызвалення

Аднойчы ўвечары ў студзені 1942 года я вырашыў, што назаўтра раніцай пайду на станцыю Вожагі і паспрабую дабрацца да польскай арміі. Ранкам устаў а пятай гадзіне, пабег да ларка, выкупіў хлеб на 6 дзён, кажучы, што еду на спецзаказ у сяло Матулёва.

Упакаваў хлеб, паўтары булкі, забраў дакументы і рушыў да станцыі, аддаленай ад Курылава амаль на 40 кіламетраў.

І вось я ўжо на станцыі. Пільную цягнікі, якія ідуць з Архангельска на Волагду. Вядома, трапіць у пасажырскі вагон няма ніякай магчымасці. І я вырашаю сесці на таварны цягнік.

І вось якое шчасце, прыйшоў таварны састаў і затрымаўся на станцыі, каб набраць вады ў паравоз. Пасярэдзіне таварных вагонаў былі тры адкрытыя платформы, на якіх знаходзіліся замацаваныя тры асаблівыя, не савецкай вытворчасці аўтамабілі, з дзіўнымі намаляванымі сіне-белачырвонымі знакамі на даху. (Пасля я даведаўся, што гэта ангельскія аўтамабілі, прысланыя ў Архангельск у рамках ваеннай дапамогі СССР).

Асцярожна, каб мяне ніхто не бачыў, я кулем ускаціўся на платформу, адчыніў пацыху дзверы ў сярэднім аўтамабілі і, улезшы ў сярэдзіну, улёгся на сядзенні, каб не было бачна маёй галавы. Так я рушыў да Волагды.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**100 гадоў** назад у вёсцы Порса (Любанскі сельсавет) нарадзіўся Уладзімір Лаўрыновіч (1913–19.04.1945), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза (1945), яго імем названая вуліца ў Вілейцы.

***

**22 сакавіка.** 70 гадоў назад (1943) у час Вялікай Айчыннай вайны акупанты спалілі вёску Хатынь разам з жыхарамі. На яе месцы пабудаваны мемарыяльны комплекс "Хатынь".

***

**24 сакавіка.** 105 гадоў з дня нараджэння Аляксея Глебава (1908 – 1968), беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі.

***

**25 сакавіка.** Дзень волі. 95 гадоў з дня абвяшчэння Радай БНР у сваёй Трэцяй устаўной грамаце (1918) утварэння незалежнай Беларускай рэспублікі і спыненні дзяржаўных сувязяў з Расіяй. Лідары БНР разлічвалі ажыццявіць суверэннасць Беларусі з дапамогай знешніх сіл. Але ні Германія і Польшча, ні краіны Антанты юрыдычна не прызналі БНР. У 1925 годзе беларускія партыі ў эміграцыі прынялі рашэнне пра спыненне дзейнасці ўрада БНР, а такім чынам і Беларускай народнай рэспублікі.

***

**27 сакавіка.** 120 гадоў з дня нараджэння Натана Грубіна (1893 – 1945), дырыжора, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Алесь Рылько (1923–1967), празаіка, драматурга, публіцыста.

***

**28 сакавіка.** 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Раговіча (1938–2005), харавога дырыжора, фалькларыста, педагога.

***



**130 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Керзіна (1883 – 1979), скульптара, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**55 гадоў** з часу выхаду (1958) Пастановы Савета Міністраў БССР аб заснаванні Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

***

**55 гадоў** назад (1958) у Мінску заснаваны Беларускі навукова-даследчы і праектна-канструктарскі інстытут рыбнай гаспадаркі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



24 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З ТУБЕРКУЛЁЗАМ

# Туберкулёз працягвае забіваць

## Найбольшая небяспека – ад лекавай устойлівасці



Фота dezinfo.net

Не ўсе хворыя прытрымліваюцца рэкамендацый доктара па лячэнні. Таму часам пацыентаў даводзіцца лячыць прымусова – па рашэнні суда іх прыгаворваюць да прымусовага лячэння ва ўстанове закрытага тыпу. Доктар павінен быць упэўнены, што хворы прыняў таблеткі, таму, выпіўшы лекі, чалавек адкрывае рот і паказвае, што праглынуў іх.

**МАЛАДЗЕЧНА. За 2012 год на Маладзечаншчыне выявілі 56 выпадкаў захворванняў на туберкулёз.**

Апошнія тры гады на Маладзечаншчыне стабільная сітуацыя з туберкулёзам – прыкладна 40 захварэўшых на 100 тысяч насельніцтва.

Палову выпадкаў выяўляюць дзякуючы флюараграфіі.

**Штогод у Беларусі на туберкулёз захворвае каля пяці тысяч чалавек.**

Найчасцей хварэюць мужчыны ва ўзросце ад 35 да 56 гадоў.

За мінулы год хваробу знайшлі ў школьніцы – па туберкулёзнай пробе. Яе пралячылі, дзяўчынка цяпер ходзіць у школу.

З тых людзей, хто абавязкова праходзіў флюараграфію, выявілі дзевяць выпадкаў захворвання. Сярод іх – бухгалтар навучальнай установы, жывёлавод, медыцынскія работнікі, гандляры, вартаўнік, студэнтка БДУ.

Больш за палову хворых, якіх выявілі летась, аказаліся бацылавыдзяляльнымі – 35 чалавек. Гэта значыць, што яны маглі б заразіць іншых паветрана-кропельным шляхам.

Калі ў хворага бацылярная форма, яго ізалююць на час лячэння. Хвароба пераходзіць у закрытую форму, і ён можа жыць звычайным жыццём, але не спыняць лячэння. Калі ўсе парады доктара выконваюцца, то пацыент папраўляецца.

Аднак ёсць такія пацыенты, якія не выконваюць прызначэнні доктара. І тады недалечаны туберкулёз стварае ўстойлівасць да лекаў.

**Курэнне ў некалькі разоў павялічвае верагоднасць захварэць на туберкулёз.**

Атрымліваецца, што стагоддзямі людзі паміралі ад мікабактэрыі – узбуджальніка хваробы.

У 1943 годзе вучоныя вынайшлі стрэптаміцын. Гэта першы прэпарат, які ўздзейнічаў на мікабактэрыю. Спачатку ён быў вельмі эфектыўны, прыкладна першыя 10 гадоў. Цяпер выкарыстоўваюць іншыя лекі. Калі пацыент парушае прапісанае лячэнне, то ў яго выпрацоўваецца ўстойлівасць да лекаў ад туберкулёзу.

Распрацаваныя лекі і для такой формы туберкулёзу. Аднак існуюць выпадкі, калі мікабактэрыяй, устойлівай да лекаў, заражаюць чалавека, які яшчэ не лячыўся ад туберкулёзу.

Ёсць і ахвяры туберкулёзу – чатыры чалавекі. Усе яна мелі хранічную форму ці ўстойлівасць да лекаў.

Колькасць людзей з лекавай устойлівасцю расце з кожным годам. Летась такіх выпадкаў выявілі 16, а ўсяго 36.

**Тамара НАВІЦКАЯ,**
**загадчыца дыспансернага аддзялення Маладзечанскага супрацьтуберкулёзнага дыспансера.**

### Каб не захварэць на туберкулёз, трэба:

**– падтрымліваць свой імунітэт**

У гэтым дапаможа паўнавартасны сон (не менш за 8 гадзін у суткі), неабходны аб'ём вады (не менш за адзін літр у суткі), рэгулярнае ўжыванне вітамінаў.

**– сачыць за харчаваннем**

Абмяжуйце тлустую і смажаную ежу ў сваім рацыёне і не захапляйцеся салодкім. Трэба памятаць, што неабходны складнік харчавання – садавіна і агародніна.

**– займацца фізічнай культурай**

Нават штодзённая зарадка на працягу 15-20 хвілін дапаможа не толькі пазбегнуць праблем са здароўем, але і зарадзіцца энергіяй на цэлы дзень.

**– сачыць за чысцінёй**

У памяшканнях, дзе вы праводзіце шмат часу, трэба рэгулярна выціраць пыл і праветрываць. Гэта тычыцца і кватэры, і дома, і офіса.

**– рабіць флюараграфію**

Гэта дапаможа заўважыць магчымыя захворванні.

ПАРАДЫ ДОКТАРА

# Як наладзіць догляд за цяжкахворым дома

**ВАЛОЖЫН. Хвароба можа паступова альбо раптам прывесці людзей да таго, што яны будуць мець патрэбу ў доглядзе. Пераважна яго забяспечваюць блізкія.**

Загадчык неўралагічнага аддзялення Валожынскай ЦРБ **Мечыслаў Шота** даў практычныя парады і рэкамендацыі па доглядзе за цяжкахворым.

### Прафілактыка пнеўманіі і пролежняў

Вельмі важна з першых гадзін праводзіць гімнастыку, масаж рук і ног. Гэта абавязковая і найбольш эфектыўная ўмова прафілактыкі пролежняў.

Кожныя дзве гадзіны хворага трэба паварочваць з боку на бок. Гэта – прафілактыка і пролежняў, і пнеўманіі.

Нерухомае становішча і працяглы застой у лёгкіх спрыяюць развіццю пнеўманіі.

Кожныя 8 гадзін працірайце цела камфорным спіртам. Таксама рабіце хвораму клізмы не радзей, чым праз дзень.

Давайце яму вадкасці з разліку 30-55 мілілітраў на адзін кілаграм масы цела ў суткі.

Кожныя 4-6 гадзін апрацоўвайце рот і глотку з дапамогай прыстасавання для адсмоктвання. Пасля гэтай працэдуры прамывайце цёплым настоем піцыпрацэнтнага раствору рамонку.

### Догляд за хворымі з сардэчнай недастатковасцю

Неабходнай умовай лячэння хворых з захворваннямі сэрца з'яўляецца спакой.

Ложак такога хворага павінны быць зручным. Пажадана, каб ён меў прыстасаванні, якія забяспечваюць узвышанае становішча верхняй палове тулава і магчымасць апусціць ногі.

Калі такога ложка няма, трэба на сетку звычайнага паставіць падгалоўнік і зрабіць упор для ног.

Неабходны дбайны догляд за скурай і прафілактыкай пролежняў.

Стан спакою не павінен быць доўгім.

З першых дзён хваробы варта часта змяняць становішча хворага ў ложку не толькі для прафілактыкі пролежняў, але і для прафілактыкі трамбозу (згортванне крыві ўнутры сасуда). Тромб прыводзіць да закупорвання сасудаў, якія часта ўтвараецца ў глыбокіх венах ног.

Спрыяльны эфект пры сардэчнай недастатковасці дае інгаляцыйнае ўвядзенне кіслароду.

Варта таксама клапаціцца аб тым, каб паветра ў пакоі было свежым, нармальней вільготнасці і тэмпературы.

### Дыета хворага

Дыета хворага павінна быць паніжанай каларыйнасці (2500 - 2800 калорый).

У харчаванні абмяжоўвайце бялок (65 - 70 грамаў) і не павышайце ўтрыманне вітамінаў А, С і групы В.

Першыя 3 - 7 дзён хвораму карысна атрымліваць ежу ў працёртым выглядзе сем разоў, а затым шэсць разоў у суткі.

Ежа павінна ўключаць прадукты, якія змяшчаюць шмат калію (бульба, капуста, курага, інжыр, шыпшына) і кальцыю.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

# Як харчавацца ў пост?

Людзям, якія прытрымліваюцца посту, трэба імкнуцца, каб ачышчэнне духоўнае суправаджалася ачышчэннем фізічным. З гэтай прычыны мы і вырашылі распытаць у доктара, як правільна харчавацца ў пост.

Адказвае **Ірына Лях**, доктар-нутрыцыёлаг.

**– Скажыце, а пост не шкодзіць здароўю?**

– Што вы! Наадварот. Трэба перыядычна рабіць ачышчэнне арганізма і ў пост, і не толькі.

**– Падчас посту трэба адмовіцца ад мяса. Чым яго замяніць?**

– Мяса – гэта бялкі. Таму замяняйце бялок жывёльнага паходжання на бялок расліны. Ешце бабовыя (гарох, фасолю, арэхі, соевыя прадукты).

**– А як жа быць з малочнымі прадуктамі, з яйкамі?**

– Многія думаюць, што, акрамя гародніны і кашаў, калі прытрымліваешся посту, няма чаго есці. Гэта не так. Насамрэч, ёсць шмат прадуктаў, пра якія мы забываем. Тыя ж арэхі, грыбы. Але я раю налягаць на капусту. Вараная, свежая. Кіслая. Не толькі смачна, але і карысна. Піце многа вады. Вада – гэта жыццё.

**– А што рабіць, калі адчуеш сябе нашмат горш, адмовіўшыся ад звыклага рэжыму харчавання?**

– Вам самім трэба вызначыцца, дзеля чаго вы посціце. І ці будзе карысць ад такога ачышчэння, калі вас перастануць трымаць ногі? Усё трэба рабіць з розумам.

**Наталля ТУР.**

НАРКОЛОГИЯ
г. Молодечно, ул. В. Гастинец, 143б, каб. 313-4
8-029 377-56-34, 8-029 272-15-51
ИП Мартынов А.Е. УНП 690210079

Возможна доставка
ТЕПЛИЦЫ
ПОЛИКАРБОНАТ
ПРОЗРАЧНЫЙ ШИФЕР
ОНДУЛИН
САЙДИНГ
МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА
ПРОФНАСТИЛ
8(017)268-15-14 8(029)330-38-32 велком 8(029)876-63-06 МТС 8(025)944-31-43 лайф

Фрунзенский (г. Минска) отдел Департамента охраны МВД Республики Беларусь объявляет набор на должности
МИЛИЦИОНЕРА
- ГРУППЫ ЗАДЕРЖАНИЯ
- ВОДИТЕЛЯ
Требования: не старше 25 лет, с образованием не ниже среднего, в том числе заочно обучающиеся, а также неслужившие в Вооруженных Силах, признанные годными к строевой службе.
ПРЕДОСТАВЛЯЕМ ОБЩЕЖИТИЕ.
ЭЛЕКТРОМОНТЕРА ОПС
Тел. (017) 201 49 46
(029) 699 65 80
Наш адрес: г. Минск, ул. Пономаренко, 4, группа кадров

Партизанский (г. Минск) отдел Департамента охраны МВД РБ приглашает на службу на должности
МИЛИЦИОНЕРОВ
МИЛИЦИОНЕРОВ-ВОДИТЕЛЕЙ
МИЛИЦИОНЕРОВ-КИНОЛОГОВ
Тел.: (017) 245-67-83, 245-62-81

РЕМОНТ и РЕСТАВРАЦИЯ
Всем клиентам 5% скидка!
МЯГКОЙ МЕБЕЛИ
без предоплаты
расчет по изготовлению заказа
составление договоров
доставка бесплатно
Банкетка или две подушки в подарок!
из кровати делаем тахту
(изменение дизайна (фото))
из дивана – угловой
большой выбор ткани
Работаем без выходных
8-0296-950-600
8-0292-724-811



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ЖЫЦЦЁВАЕ

# Топ самых бязглуздых траўмаў

**Упушчаны ў ваду фен, сушэнне валасоў у духоўцы, воцат у бутэльцы з-пад мінералкі....**

Заўсёды балюча і крыўдна атрымліваць траўмы, асабліва калі яны здараюцца з-за нашага ўласнага глупства.

Мэта гэтага своеасаблівага хіт-парада – нагадаць у чарговы раз, дзе нас ва ўласнай кватэры можа падпільноўваць небяспека.

## Падзенні

У пачатку нашага хіт-парада – усемагчымыя падзенні. Пагадзіцеся, што мала ў каго ёсць у гаспадарцы лесвіца – драбіна.

І як нашы людзі вырашаюць такую праблему? Так, ставяць адзін на адзін зэдлічкі. А гэта вельмі небяспечна! Асабліва, калі зэдлічкі аднолькавага памеру.

**Парада:** каб пазбегнуць падзенняў, выкарыстоўвайце стол ці больш па памеры зэдлічак у якасці ніжняга "яруса". Ці проста папрасіце драбіну ў суседа.

Яшчэ адно самае распаўсюджанае падзенне – на слізкай падлозе. Гэта можа здарыцца, калі вы нешта разлілі на падлогу і забыліся выцерці. Часта такія падзенні здараюцца ў ваннай.

**Парада:** адразу ж выцірайце падлогу, калі вы нешта разлілі. А калі вы толькі што вымылі падлогу, то не забудзьцеся папярэдзіць аб гэтым сваіх дамашніх. Знаходзячыся ў ванным пакоі, пазбягайце хуткіх і рэзкіх рухаў.

## Электрычныя прыборы

Наступнае месца хіт-парада займае наша няўменне карыстацца электрычнымі прыборамі. Тут, дарэчы, можна прыгадаць радкі Крылова: "Уж сколько раз твердили миру...". Здаецца, і на каробках ад электрапрыбораў вялікімі літарамі напісаныя правілы карыстання, і з дзяцінства мы ведаем, што з электрычнасцю жартаваць не варта, а ўсё роўна наступаем на адны і тыя ж граблі.

Вельмі часта траўмы ад электрапрыбораў узнікаюць у той жа ваннай. **Ні ў якім выпадку не карыстайцеся электрапрыборамі, напрыклад, фенам, калі ў вас набраная вада ў ванне або льецца.** Вы выпадкова можаце ўпусціць у ваду электрычны прыбор. Тое ж тычыцца і пральнай машыны. Лепш пачакайце. Прыміце ванну пасля таго, як машына перастане працаваць.

Нядрэнна будзе нагадаць і пра разеткі. Калі ў вас ёсць разетка ў ваннай, паклапаціцеся пра тое, каб яна была абароненая ад вады.

Але не толькі электрапрыборы, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад вады, уяўляюць небяспеку для чалавека. Некаторыя, напрыклад, прасуюць адзенне непасрэдна на сабе, каб зэканоміць час. У выніку – апёкі, нараканні на сваю дурасць і бальнічны ліст.

І яшчэ пра электрапрыборы. Як наш чалавек ліквідуе ўсе непаладкі? Так, сіняй ізастужкай. Забудзьцеся пра гэты каменны век у рамонце! Адразу ж замяняйце ці праводку, ці прыбор.

## Газавыя пліты

Гэты радок нашага хіт-парада прысвечаны траўмам, якія адбываюцца праз няправільнае карыстанне газавай плітой. Думаю, што карыстацца ёй па прамым прызначэнні ўмеюць усе. Але не ўсё так проста, таму што нашы грамадзяне ўмудраюцца выкарыстоўваць газавую пліту і ў іншых мэтах.

Зімой многія дадаткова абаграваюць кватэру газавай плітой. Уключаюць усе канфоркі і грэюцца. Гэта вельмі небяспечна! Дарэчы, гэта яшчэ і самая распаўсюджаная прычына атручэння газам і адна з асноўных прычын яго выбуху. Адно цешыць, як нам пракаментавалі ў "Маладзечнаміжрайгазе", што такія выпадкі здараюцца ўсё радзей. Цяпер гэта нявыгадна. У многіх стаяць лічыльнікі. Але такога выкарыстання газу дапускаць нельга! – гаворыць нам **Валерый Русак**, галоўны інжынер "Маладзечнаміжрайгазу".

Другое выкарыстанне пліты не па прызначэнні – для сушкі адзення. З гэтым, думаю, пагодзяцца многія маладыя мамы. Як яшчэ хутчэй высушыць паўзункі дзіцяці? Такое выкарыстанне – прамая небяспека ўзнікнення пажараў!

Яшчэ мяне здзівіла прызнанне маёй знаёмай: у яе зламаўся фен, і каб хутчэй высушыць валасы – яна засунула галаву ў духоўку. Хочацца спадзявацца, што гэта адзінкавы выпадак.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Часам мы забываем, што наліваем у бутэлькі.

**Парада:** карыстайцеся газам вельмі асцярожна. Калі пачулі пах газу – адразу ж выклікайце спецыялістаў па тэлефоне **104**.

## Смачна есці!

Наступнае месца нашага хіт-парада адводзіцца траўмам на той жа кухні. Некаторыя гаспадыні часам пераліваюць, скажам, з няручнай літровай бутэлькі воцат ці, што яшчэ страшней, воцатную эсэнцыю ў маленькую бутэлечку ад мінералкі ці з-пад якой-небудзь іншай бяскрыўднай вадкасці. Пра наступствы выпадкова адпітага з такой бутэлечкі, думаю, тлумачыць не трэба...

**Парада**: калі вы не паленаваліся пераліваць нешта з адной ёмістасці ў другую, то не палянуйцеся і падпісаць, што ж цяпер там знаходзіцца. Гэтым вы засцеражаце і сябе, і сваіх блізкіх.

Такім чынам, мы паспрабавалі сабраць самыя тыповыя памылкі ў нашым з вамі побыце. Беражыце сябе і сваіх блізкіх. І памятайце, што ад нашай пільнасці залежыць шмат!

Калі ў вас ёсць прыклады іншых небяспечных сітуацый, якія могуць прывесці да бытавых траўмаў, дзяліцеся, калі ласка. Давайце разам рабіць жыццё бяспечным!

**Наталля ТУР.**

LAZARSKI UNIVERSITY
ŁAZARSKI
WARSAW • POLAND
96%
нашых выпускнікоў адразу знаходзяць працу паводле спецыяльнасці
згодна з даследаваннем, праведзеным Эдвайзер Груп
УНІВЕРСІТЭТ ЛАЗАРСКАГА
ВУЧЫСЯ ПОСПЕХУ
www.lazarski.ru
tel.: +48 500 167 406
e-mail: belinfo@lazarski.edu.pl
Універсітэт Лазарскага, Рэспубліка Польшча, г.Варшава

ЯКІЯ МЫ!

# Ці саступаюць мужчыны месца ў транспарце?

**МАЛАДЗЕЧНА. Я вырашыла правесці эксперымент і даведацца, ці саступаюць мужчыны ў грамадскім транспарце месца цяжарным, пажылым і жанчынам з дзецьмі.**

## Непад'ёмныя сумкі

Узяўшы з дому тры вялікія пакеты і паклаўшы ў іх розныя рэчы, я адправілася на прыпынак.

Два аўтобусы прыйшлося прапусціць, бо ў іх было занадта мала людзей і было некалькі вольных месцаў. Трэці аўтобус быў перапоўнены. Я зайшла ў яго. З велізарнымі торбамі і сумнымі вачыма я стала каля мужчыны. Мужчына як сядзеў, так і сядзеў, хаця погляд на сумкі кінуў. Так я праехала некалькі прыпынкаў, і трымаць пакеты мне на самой справе стала цяжка. Я папрасіла мужчыну саступіць мне месца. Нешта невыразна прашаптаўшы сабе пад нос, ён усё ж такі ўстаў.

## Цяжарная жанчына

Зрабіўшы з бандажа штучны жывот, я зноў адправілася па маршруце. Вольных месцаў у ім не было. Я зноў заняла стаячае месца.

Адной рукой узяўшыся за поручань, а другую паклаўшы на жывот, я стала чакаць. Малады хлопец, які сядзеў блізка ад мяне, не звярнуў аніякай увагі на цяжарную жанчыну і працягваў ехаць з абыякавым выглядам.

Так працягвалася некалькі прыпынкаў, пакуль жанчына, якая стаяла побач, не заявіла хлопцу: "Ды як табе не сорамна, бачыш жанчына на малое чакае, стаяць ёй цяжка, а ты конь такі сядзіш". Хлопец паглядзеў на мяне, папрасіў прабачэння і ўсё-ткі саступіў месца. Астатнюю дарогу жанчына распытвала мяне пра дзіця.

## З дзіцем

На наступны дзень я ўзяла з сабой двухгадовага пляменніка. Мы дачакаліся перапоўненага аўтобуса і ўвайшлі ў яго. З малым на руках я стала побач з маладым мужчынам, які сядзеў.

Як толькі мы падышлі, яму рэзка захацелася пабалбатаць па тэлефоне. Набраўшы нумар, ён прыклаў тэлефон да вуха, павярнуўся да акна і размаўляў, не звяртаючы на мяне аніякай увагі. Тым часам малы пачаў капрызіць, і мужчына з жанчынай, якія сядзелі непадалёк, саступілі нам месца.

## Пажылая жанчына

У наступны раз на "справу" я вырашыла ўзяць сваю бабулю, якая ходзіць з кійком.

Як толькі аўтобус пад'ехаў, мужчына дапамог бабулі падняцца па прыступках. У самым аўтобусе таксама чакаць доўга не давялося, малады хлопец адразу саступіў пажылой жанчыне месца. Але не заўсёды так атрымліваецца. "Гэта як пашанцуе", – сказала мая бабуля.

**Аліна ЛАПЦЁНАК.**

Адказ псіхолага рэабілітацыйнага цэнтра **Таццяны Гарбачэўскай** на пытанне: "Чаму мужчыны так рэдка саступаюць месца ў транспарце?"

Калі мужчына не саступае месца, для гэтага ёсць некалькі прычын:

1. Мужчыны не адбыліся як асобы, несамадастатковыя
2. Па звычцы. Мужчына прывык, што яго песцяць (спачатку мамы, а потым жонкі)
3. Узлаванасць на жанчын, напрыклад, з-за матчынай халоднасці
4. Няма культуры выхавання



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



БУДЗЬ У ФОРМЕ!

# Што такое ёга і навошта яна нам

**МАЛАДЗЕЧНА. Заняткі ёгай накіраваныя на пазбаўленне ад хвароб цела і душы і выпрацоўку ўмення глядзець па-новаму на жыццё. Займацца можна самастойна, але лепш пад кіраўніцтвам дасведчанага інструктара.**

Правільныя заняткі ёгай палепшаць і фізічнае, і духоўнае самаадчуванне. У гэтым упэўненая інструктар аднаго з фітнэс-клубаў **Ала Корбут**.


Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Інструктар Ала Корбут.

## Сапраўднай ёгі ў нас няма

– У фітнэс-клубах не займаюцца сапраўднай ёгай, – кажа спадарыня **Ала Корбут**. – Можа, ёсць такія інструктары і школы ёгі, але я вучу людзей займацца фітнэс-ёгай.

У нас яна больш даступная для людзей, якія прыходзяць да мяне займацца. Справа ў тым, што не кожны можа пагадзіцца з некаторымі метадамі ёгі, тым больш некаторым яна наогул не трэба. Я маю на ўвазе медытацыю – тып практыкаванняў па трэніроўцы канцэнтрацыі ўвагі, які выкарыстоўваецца для выпрацоўкі кантролю над ходам сваіх думак і эмоцый, бо не кожны чалавек гатовы ёй займацца. І ўвогуле, ёга – гэта цэлая філасофія, лад жыцця чалавека.

## Навошта чалавеку ёга

– Чалавек, які займаецца ёгай, жыве ў межах асобных правілаў. Гэта строгае харчаванне, догляд за сабой, пэўныя гадзіны для заняткаў.

А сапраўдная медытацыя – гэта сыход у сябе, сыход ад усяго. Да мяне больш прыходзяць людзі, якія хочуць атрымаць фізічныя нагрузкі, каб яны былі карыснымі, – распавядае інструктар Ала.

## Што такое фітнэс-ёга

Як распавяла нам інструктар па фітнэс-ёзе, гэта ўзаемадзеянне двух напрамкаў, або сінтэз фітнэсу і ёгі. Фітнэс – агульная фізічная падрыхтоўка арганізма чалавека. Ёга – яднанне цела, розуму і душы. У кожных з гэтых напрамкаў прыбралі недахопы, каб яна была больш даступная для людзей любога ўзросту і ўзроўню падрыхтоўкі.

Ёга падыходзіць для тых людзей, якія прывыклі да больш спакойнага і размеранага ладу жыцця. Для тых, хто не любіць інтэнсіўных нагрузак.

– Я ўжо казала, што мала хто ў нашы дні схільны да медытацыі, да выканання складаных асан (поз), – кажа Ала Корбут. – Для простага чалавека гэта можа і незразумела. Такія зносіны не ўсіх прыцягваюць. Накірунак фітнэс-ёгі ўлічвае ўсе гэтыя моманты.

## Чым карысная ёга

У ёгі няма вялікіх сілавых нагрузак. Інструктар імкнецца максімальна расслабіць чалавека ў той ці іншай асане. Выкананне практыкаванняў ёгі суправаджаецца канцэнтрацыяй на дыхальным рытме, правільнасці выканання асан і ўсведамленнем дзеяння кожнага практыкавання на тую ці іншую групу мышцаў.

Ёга ўмацоўвае мышцы прэса, паляпшае баланс, гнуткасць цела, паляпшае каардынацыю і зніжае стрэс.

Кожная праблемная зона цела прапрацоўваецца асобна. Гэта значыць, што калі чалавек выходзіць у "позу сабакі", ён расслабляе спіну і расцягвае ногі.

– Пасля заняткаў у чалавека паляпшаецца настрой і павялічваецца самаацэнка, – кажа Ала Корбут.

## Як праходзяць заняткі

Заняткі пачынаюцца з самых простых поз, а потым у працэсе чалавек рыхтуецца да больш складаных.

Кожная поза мае сваю назву. Напрыклад, позы дрэва, кошкі, змяі.

Вялікае значэнне надаецца тэхніцы дыхання. На занятках ёгай вучаць пастаянна і спакойна дыхаць.

Адзінае, што ўлічваецца, – гэта фізіялогія дыхання. Напрыклад, пры скручванні корпуса цела і напрузі мышцаў ідзе выдых, а ўдых – пры расслабленні мышцаў. Гэта галоўнае правіла.

Вядома, з першых заняткаў гэтаму складана навучыцца, але паступова людзі вучацца спакойна дыхаць і расслабляцца.

## Займацца ёгай могуць нават людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі

Заняткі ёгай бяспечныя і падыходзяць для шырокай узроставай катэгорыі.

Але перад тым, як пачаць займацца, неабходна пракансультавацца з доктарам, тым больш калі ёсць праблемы з сэрцам. Калі не моцныя нагрузкі, то можна і людзям з міжпазваночнай грыжай.

## Ёгай можна займацца і дома

Займацца ёгай можна як у фітнэс-клубе, так і самастойна, дома. Напрыклад, сваім вучням Ала раіць падчас прыгатавання ежы рабіць тыя практыкаванні, якія яны прайшлі на занятках.

## Ёга праходзіць пад добрую музыку

Музыка станоўча ўздзейнічае на эмоцыі чалавека. Ёга ж не патрабуе выканання асан пад музыку, але яна добра ўздзейнічае на настрой. Як кажа інструктар, яна раней аддавала вялікія грошы за дыскі.

Але музыку можна падабраць і самому. Яна павінна быць спакойная, меладычная, манатонная, як і самі заняткі ёгі.

## Заняткі праходзяць на дыванках

У фітнэс-клубе ёсць дыванкі, на якіх займаюцца ёгай. А некаторыя, у мэтах гігіены, прыносяць з сабой ручнічкі. А ўвогуле для ёгі існуе шмат рознага абсталявання: і мячыкі, і дыванкі.

Апранацца на заняткі лепш у трыкатажныя касцюмы, якія цягнуцца. У іх будзе займацца нашмат зручней.

## Ад ёгі мышцы не нарошчваюцца

Напрыклад, калі ў сілавых занятках мышцы нарошчваюцца, то ў ёзе нарошчванне мышачнай масы не адбываецца.

Адбываецца толькі ўмацаванне і расцяжэнне мышцаў. Фарміруецца вельмі прыгожая і моцная мышца.

А што для жанчыны галоўнае – прыгожыя і расцянутыя мышцы, а не нарошчаная мышачная маса.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

НАВІНЫ

## Вілейскія школьнікі гулялі ў валейбол

**ВІЛЕЙКА.** З 11 па 15 сакавіка адбыліся спаборніцтвы па валейболе ў рамках спартакіяды навучэнцаў. У іх прынялі ўдзел прадстаўнікі пяці ўстаноў адукацыі горада, якія гулялі па кругавой сістэме. Сярод юнакоў першае месца заваявала каманда вілейскай гімназіі №1 "Логас".

Паміж дзяўчат лепшымі сталі прадстаўнікі гімназіі №2, паведаміла метадыст раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Людміла Арлоўская**.

## Моладзь рэгіёна спаборнічала ў лёгкай атлетыцы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Рэгіянальнае першынство прайшло ў Маладзечне 15-16 сакавіка. У ім прымалі ўдзел спартсмены ад 15-і гадоў і меншыя. Юнакі і дзяўчаты з'ехаліся з Вілейкі, Валожына, Смаргоні, Ашмянаў і Астраўца. Бралі ўдзел у спаборніцтвах і маладзечанскія спартсмены.

Лепшыя вызначаліся ў бегу на розныя дыстанцыі, скачках у вышыню і даўжыню, а таксама штурханні ядра.

Большасць першых месцаў засталася ў родным горадзе. Сярод маладзечанскіх дзяўчат лепшымі сталі **Наталля Рогач, Настасся Страх** і **Аліна Пункевіч**. У хлопцаў першыя – **Ігар Гоманаў, Уладзіслаў Сяргей** і **Уладзімір Сівец**.

Госці таксама не засталіся без залатых узнагарод. Сярод валожынцаў адзначыўся **Уладзімір Княжэвіч**, сярод смаргонцаў – **Кірыл Балаховіч** і **Марыя Пешкур**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Каманда "Зубраня" – чэмпіён раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ. У сераду, 13 сакавіка, адбыўся вырашальны матч у чэмпіянаце раёна па міні-футболе.**

У матчы заключнага, трынаццатага, туру сустракаліся два лідары чэмпіянату – каманды Нацыянальнага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра "Зубраня" і Мядзела. Сустрэча завяршылася з лікам 8:0 на карысць "Зубраня".

– Разгромны лік аніяк не адлюстроўвае характар матча. "Сухая" перамога атрымалася дзякуючы вельмі ўдалай гульні галкіпера "Зубраняці", які тварыў у варотах цуды, – паведаміў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

Іншыя сустрэчы прынеслі такія вынікі. Каманда райваенкамата сыграла ўнічыю з футбалістамі ПМС (5:5). Прадстаўнікі аддзела па фізкультуры і спорце абыгралі супрацоўнікаў РАУС з лікам 3:1. Футбалісты ЖКГ забілі пяць мячоў без адказу ў вароты каманды Крывіцкага сельсавета. З такім жа лікам – 5:0 – закончылася гульня паміж аддзелам адукацыі і Будслаўскім сельсаветам.

У суботу, 16 сакавіка, прайшоў заключны матч чэмпіянату. Каманда Нарацкага сельсавета абыграла супрацоўнікаў райаддзела па надзвычайных сітуацыях 3:1.

Такім чынам, каманда "Зубраня", выйграўшы ўсе матчы, па праве стала чэмпіёнам раёна. У трынаццаці матчах футбалісты цэнтра "Зубраня" забілі 113 галоў, а прапусцілі толькі 12. На другім месцы з адным паражэннем прадстаўнікі аддзела адукацыі (розніца мячоў 93:21). Замкнула тройку прызёраў каманда Мядзела, якая выйграла 11 матчаў, а прайграла два. Забілі мядзяльчане 98 галоў, а прапусцілі 37.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Міхаіла Чаркасава.

Каманда НДЦ "Зубраня".



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Беларусы – гэта мы! Так адказалі некаторыя з сотні апытаных маладзечанскіх вучняў

Паважаны Андрэй, страчваем мы ўжо не толькі беларускасць, а нават наогул чалавечае аблічча. Усё негатыўнае, што пярэчыць Біблії, узяло верх над намі. Людзі не вераць ні ў Бога, ні ў д'ябла, ні нават самім сабе. Хамства, абраза, зайздрасць, знявага, здзек, гвалт, насілле, забойствы – вось гэта наша сучаснасць. І гэта ўжо адна з прыкмет перад канцом свету. А самая галоўная прыкмета – калі людзі пабягуць з горада ў вёску. І гэта таксама ўжо адбываецца, асабліва вельмі інтэнсіўна на працягу апошняга дзесяцігоддзя. Так што нам на самой справе ёсць над чым задумацца і ратаваць, акрамя беларушчыны, у першую чаргу свае душы грэшныя. *Алесь Раткевіч.*

### Як мы шукалі ў крамах воцат, парасон і станік

Рэальны рэпартаж. Паказаныя натуральныя рэакцыі людзей на беларускую мову: хтосьці ведае – тады ўсё о.к., хтосьці падыгрывае – дапамагае з перакладам на расейскую, кагосьці яна раздражняе, як і пакупнікі, якія паводзяць сябе незвычайна… Ёсць элемент крэатыўнасці і няма рытуальнага пра "мілагучную, спеўную, сакавітую", якую нібыта надта любяць на вечарынах, але не карыстаюцца ў штодзённым жыцці. Мова – не аб'ект кахання, але, найперш, сродак зносін паміж людзьмі. Матэрыял, дарэчы, таксама добра пасуе для рубрыкі "Прыгоды". *I. Z.*

### Восьмую судзімасць атрымаў за рабаванне жыхар Ашмянаў

Восем судзімасцей так і не навучылі чалавека нармальнаму жыццю. Мабыць, і гэтыя два з паловай гады нічога не памяняюць і не нададуць новага. Шкада, што вось з-за такіх "кадраў" пакутуюць нявінныя людзі і ламаюцца многія лёсы. *Зямляк.*

### Збіў жонку да разрыву мачавога пузыра

Вось гэта дык сямейка – муж на ўліку ў нарколага, а жонка таксама выпіць не грэбуе. Ва ўсякім разе, які б там у яго сіндром залежнасці ад алкаголю ні быў, але так здзекавацца з жанчыны, тым больш са сваёй жонкі, ніхто не даваў яму такога права. А некалі ж яны кахалі адно аднаго, гаварылі аб вернасці на ўсё жыццё. Але тут умяшалася чарка з гарэлкай, і ўсё скончылася. Яшчэ два паламаныя лёсы, яшчэ адна загубленая сям'я. *Зямляк.*

### Вясна паказала, хто дзе крадзе. Пацярпелі дачнікі на Валожыншчыне

Добра пажывіўся зладзюга – больш чым на 8 мільёнаў. Я лічу, што пацярпелыя самі з аднаго боку ў гэтым вінаватыя. Усе ведаюць пра крадзяжы зімой з лецішчаў. Чаму тады восенню не вывезці самае каштоўнае у горад – у гараж ці падвал? Многія на вокны ставяць жалезныя краты – гэта не вельмі прыгожа, затое надзейна. Добра калі злодзея знойдуць, але надзеі мала. *Зямляк.*

### Дом віляйчанкі абакралі больш чым на 7,5 мільёна рублёў

Вось усталёўвалі б людзі ў кватэрах, на дачах, у недабудаваных дамах ахоўную сігналізацыю, глядзіш, і крадзяжоў было б менш. *Света.*

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | 2 | | 6 | | | 7 | 1 |
| | | | | 7 | | | 6 | |
| 6 | | | | | | 2 | | 4 |
| 7 | | | 1 | | | | 5 | |
| | | | 8 | | 9 | | | |
| | 4 | | | | 7 | | | 2 |
| 2 | | 5 | | | | | | 7 |
| | 6 | | | 5 | | | | |
| 4 | 9 | | | 1 | | 5 | | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ЧЫТАЧ ЗАДАЕ ПЫТАННЕ

# За чаргу адказваюць самі кліенты

**МАЛАДЗЕЧНА. Як кажуць, дрэнны прыклад вельмі заразны. Выпадак, які здарыўся 19 сакавіка ў чысцінскім аддзяленні аднаго з банкаў, падштурхнуў узяцца за пяро.**




Кліенты павінны самі стварыць чаргу так, каб яна была зручная для іх саміх.

У аддзяленні працуюць заўжды дзве касы. Можна смела казаць, і без перабольшвання, што абслугоўваюць тут кліентаў на вышэйшым узроўні. Але вось што робіцца па іншы бок акенцаў, зусім незразумела і не ўкладваецца ні ў якія рамкі.

Ужо летась у чэргах тут узнікалі спрэчкі з-за таго, што некаторыя наведнікі займалі чэргі ў абодва акенцы. З-за іхняй беганіны складалася неразбярыха ў чарзе. У выніку ўзнікалі канфлікты паміж наведнікамі, для вырашэння якіх даводзілася нават выклікаць міліцыю.

А 19 сакавіка наогул убачыў ноу-хау. Невядома кім пісанае і ўведзенае новае правіла паставіла ўсіх наведнікаў у адну агульную чаргу да дзвюх кас. У цёмным вузкім калідорчыку чарга расцягнулася амаль на вуліцу, у той час калі галоўнае памяшканне заставалася пустым. Там стаялі толькі па адным чалавеку каля акенцаў.

На маё пытанне, адкуль такія правілы, моладзь адказала так, што мне ўжо больш заходзіць у гэта аддзяленне адпала ўсялякае жаданне. Чаму ў іншых аддзяленнях існуе нейкі парадак, кожны прытрымлівэцца сваёй чаргі, а ў Чысці штосьці незразумелае.

І хто павінен устанаўліваць тут элементарныя правілы ў чарзе, гаспадары гэтай установы ці яе наведнікі?

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**– Кліенты самі вырашаюць, як ім зручна стаяць у чарзе – ствараць адну ці дзве. Мы ў гэта не ўмешваемся,** – паведамілі ў аддзяленні банка.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прем'ера! Прыгодніцкі экшн, фэнтэзі **"Джэк – забаўнік веліканаў"** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 сакавіка – у 16.00
23 сакавіка – у 16.30
24 сакавіка – у 13.00
25, 28 сакавіка – у 15.30
26-27 сакавіка – у 18.30
28 сакавіка - у 18.00

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Оз: Вялікі і магутны"** (у фармаце 3D, ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 сакавіка – у 18.30
23 сакавіка – у 13.30
24, 26-27 сакавіка – у 15.30
25 сакавіка – у 18.00
Кошт білетаў – 35 000 рублёў (дзённы), 40 000 рублёў (вячэрні сеанс)

Трылер **"Аперацыя "Арго"** (сёлетні ўладальнік прэміі "Оскар" у намінацыі "Лепшы фільм года", ЗША, 2012 год, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23 сакавіка – у 19.00
24 сакавіка – у 18.30
Кошт білетаў – 30 000 рублёў

Крымінальны экшн **"Моцны арэшак. Добры дзень, каб памерці"** (ЗША, 2013 год, для гледачоў, старэйшых за 16 год)
22, 23 сакавіка – у 21.30
24-28 сакавіка – у 21.00
Кошт білетаў – 25 000 рублёў

Камедыя **"Першаклашкі"** (Расія, 2012, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26-28 сакавіка – у 13.30
Кошт білетаў – 7 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама **"Тры метры над узроўнем неба: Я цябе жадаю"** (Іспанія, 2012)
22 сакавіка – у 18.50, 21.10
23 сакавіка – 18.30, 21.00
24-28 сакавіка – у 19.00, 21.30

Анімацыйная камедыя **"Гладыятары Рыма"** (Італія, 2012)
22 сакавіка – у 17.00
23-28 сакавіка – у 15.00, 17.00

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў"** (казка-страшылка), ідзе на рускай мове *Алег Чэчанеў*
26 сакавіка – у 10.30

**"Кошкі-Мышкі"** (казка-гульня па матывах п'есы Аркадзя Хайта "Дзень нараджэння ката Леапольда") *А.Хайт*
28 сакавіка – у 11.00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Рэй Куні*
22 сакавіка – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Карона з кахання"** (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы) *Анатоль Дзялендзік*
26 сакавіка – у 19.00

*МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ТЭАТРА*

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*
27 сакавіка – у 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Доктар Айбаліт"** (казка), У.Карастылёў
**24 сакавіка – у 12.00**

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП (22-28 САКАВІКА)


**Авен.** Вам парада: лавіце выпадак, дзейнічайце – і вам усміхнецца Фартуна.


**Цялец.** Фінансы запатрабуюць рацыянальнага падыходу, было б добра запісваць нават дробныя расходы, каб не ўзнікала пытанняў.


**Блізняты.** Вам цяпер пара звярнуць увагу на свой знешні выгляд. Не таму, што ўсё так дрэнна, проста ў вас нарэшце з'явяцца і грошы, і час для гэтага. Купіце некалькі якасных сродкаў для ўвільгатнення і ачысткі скуры, зрабіце маскі. І ўжо праз тыдзень вы пачуеце: "Як вам так удаецца цудоўна выглядаць?!"


**Рак.** Вам карысная інтэлектуальная праца. Па вечарах замест таго, каб проста глядзець тэлевізар, паразгадвайце красворды ці пагуляйце ў "Эрудыт", можна патраціць час на любыя галаваломкі.


**Леў.** Вам цяпер неабходная дадатковая крыніца станоўчай энергіі, бо вашы ўласныя сілы не такія і вялікія. Пахадзіце па магазінах, звярніце ўвагу на ружовы кварц, бо менавіта ён акажацца незаменным памочнікам у тым, каб дапамагчы забыць старыя крыўды.


**Дзева.** Вам неабходна навучыцца жыць, ладзячы з сабой і навакольнымі. Нельга ў парыве гневу размазваць па сцяне блізкіх людзей, падумайце, яны яшчэ вам спатрэбяцца.


**Шалі.** Каб ваша скура не апынулася ў жаласным выглядзе, піце пабольш вады.


**Скарпіён.** Падыміце галаву ад сумных папер, інакш вы рызыкуеце прапусціць цікавую прапанову, якая абяцае вам новую крыніцу даходу.


**Стралец.** Выхадныя прысвяціце сабе, і не перажывайце, што каханы чалавек заняты, такое здараецца.


**Казярог.** Вам неабходна адмовіцца ад спажывання алкаголю. Нават у мінімальных дозах ён будзе дзейнічаць на ваш арганізм разбуральна. Могуць пацярпець печань, ныркі, сэрца, сасуды.


**Вадалей.** Навучыцеся разумна дзяліць час паміж работай і адпачынкам. Як перарасход энергіі, так і застой (ляжанне на канапе) негатыўна ўплываюць на здароўе.


**Рыбы.** Дапамажыце дзецям разабрацца з праблемамі, але не ўзвальвайце цалкам іх праблемы на сябе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -10 / -6 | | -13 / -9 | | -12 / -4 | | -10 / -3 | |
| | 743 | ↙ 6 | 744 | ↓ 6 | 746 | ↓ 5 | 747 | ↙ 4 |
| Вільня | -10 / -9 | | -14 / -5 | | -8 / -2 | | -8 / -2 | |
| | 754 | ↙ 6 | 756 | ↙ 5 | 757 | ↓ 5 | 758 | ↓ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, заход па Маладзечне

Усход 7.05
Захад 19.32
Даўжыня дня 12.27

Усход 15.08
Захад 5.07
Квадра 2

**23 сакавіка, субота**

| Горад | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | -15 | -10 | 751 | ↓ 5 |
| Гродна | -13 | -6 | 756 | ↙ 6 |
| Мінск | -13 | -9 | 744 | ↓ 6 |
| Магілёў | -14 | -12 | 750 | ↙ 6 |
| Брэст | -13 | -8 | 752 | ↙ 5 |
| Гомель | -15 | -7 | 756 | ↙ 3 |

## ПРЫКМЕТЫ

- У сакавіку вада не цячэ – у красавіку трава не расце.
- Гром у сакавіку – прадвеснік урадлівасці.
- 25 сакавіка ў каталікоў Дабравешчанне ("У каго хлеба шмат – і Дабравешчанню рад").
- Частыя сакавіцкія туманы – адзнака дажджлівага лета.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Карэпандэнт "РГ" пабывала ў выпраўленчай установе №38, якая знаходзіцца ў Мароськах на Маладзечаншчыне. Што яна там пабачыла, чытайце ў наступным нумары газеты.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Ведаеш, што самае крыўднае, калі варыш пельмені?
– Што яны разварыліся?
– Не.
– А што?
– Калі вада закіпела, адкрываеш халадзільнік, а пельмяняў няма …

Белорусская Федерация Танцевального Спорта
ГУ "Дворец культуры г.Молодечно"
ТСК "Каскад"
24 марта
РЕСПУБЛИКАНСКИЙ ТУРНИР ПО БАЛЬНЫМ ТАНЦАМ
КУБОК МОЛОДЕЧНО-2013
Тел.:75-27-84
УНП 690244105

СЕНСАЦИЯ, СПЕШИТЕ!
*«Весна, цены тают...»*
В фирменном магазине «Мебель Пинскдрев»
**только до 1 апреля на всю КОЖАНУЮ МЕБЕЛЬ**
**СКИДКИ ДО 70%.**
**Предоставляется рассрочка 0%.**
***ПОЗВОЛЬТЕ СЕБЕ ПРАЗДНИК!*** Ждем Вас по адресу:
*г. Молодечно, ул. В. Гастинец, 67, ТЦ «Спутник»*
Тел. **(8-0176) 70-61-03, (8-044) 541-64-18**
ЗАО «Холдинговая компания «Пинскдрев» Представительство в Минске. УНП 100987896

ОТОПЛЕНИЕ - ВОДОСНАБЖЕНИЕ
- КОТЛЫ
- РАДИАТОРЫ
- ВОДОНАГРЕВАТЕЛИ
- ЭЛЕКТРООБОГРЕВАТЕЛИ
- ТРУБЫ, ФИТИНГИ, КРАНЫ
- БАКИ РАСШИРИТЕЛЬНЫЕ
- СЧЕТЧИКИ ГАЗА и ВОДЫ
Рассрочка 0%
Частное предприятие "Теплое Место". УНП 191283857
Фирменный магазин IMMERGAS
8 029 1228737
8 029 1356221
Молодечно, ул. Мира, 10А

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ

Фота Ігара МАРОЗА.

**Рыбакі на сажалцы каля Віліі.**

*МЭБЛЯ на любы ГУСТ*
НІЗКІЯ ЦЭНЫ
АД КУХНЯЎ І ШАФАЎ-КУПЭ ДА ОФІСНАЙ
*Выезд дызайнера, дастаўка, зборка, гарантыя якасці*
*РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %%*
*Вілейка, вул. Піянерская, 47, тэл. (8-01771) 5-34-30; т/ф 5-63-82*
*Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 7, тэл. (8-0176) 75-73-82*
*http//www.belmebelstar.ru*
ТАА «МЕБЕЛЬСТАР». УНП 690249732

ЦЕМЕНТ ШИФЕР
ГИПСОКАРТОН
СТРОИТЕЛЬНЫЕ СМЕСИ
БЛОКИ СТЕНОВЫЕ НА КЛЕЙ
Со склада в Вилейке
Тел. (8-01771) 5-26-98, (8-029) 115-22-98
ООО «Практика-Центр». УНП 690557327

Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 12 (934) 22.03.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 220. Падпісана ў друк у 10.00 21.03.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Хто з беларусаў можа быць узорам для сучаснай моладзі?

**Дзмітры Серы, газарэзчык:**

– Нават не ведаю. На маёй памяці ў нас няма такіх людзей, з якіх можна браць прыклад, мне нават цяжка адказаць.

**Алена Царова, медык-рэабілітолаг, выкладчык ЛФК:**

– Бабулі, дзядулі, старэйшае пакаленне. Ды шмат хто. Магу выдзеліць беларускага класіка Янку Купалу.

**Пётр Місюль, выкладчык тэхнічных дысцыплін політэхнічнага каледжа:**

– Якуб Колас, Янка Купала, таму што пісалі, былі беларусамі да мозга касцей. Ефрасіння Полацкая, у яе была свая ідэя асветніцтва, якой яна не здрадзіла.

**Мікалай Пятровіч, пенсіянер:**

– Ну тыя, якія жылі, напрыклад, Ефрасіння Полацкая. Вельмі шмат, як пачнеш пералічваць, хто будаваў, хто рабіў для Беларусі. Шмат добрых людзей было.

**Дзмітры Жаўняровіч, тэхнік-праграміст:**

– На мой погляд, цяпер моладзь стала менш цікавіцца сваёй гісторыяй. Але я лічу, што ў нашых продкаў ёсць чаму павучыцца. Мяне ўражвае Васіль Быкаў, асобныя персанажы яго твораў сваімі паводзінамі паказваюць добры прыклад.

**Андрэй Жацейка, інжынер:**

– Моладзі трэба браць прыклад з вядомых пісьменнікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, таму што яны праславілі нашу краіну на ўвесь свет. Добрым прыкладам служыць Даша Домрачава, якая займаецца біятлонам, выступае за нашу зборную і дасягнула недрэнных вынікаў, таксама Азаранка, наша чэмпіёнка па тэнісе.

**Яўген Комар, чыгуначнік:**

– З жанчын – Домрачава, вядомая спартсменка. З мужчын – Пётр Машэраў, таму што шмат зрабіў для сваёй краіны.

**Падрыхтаваў Ілля САНЬКО.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020